НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 25 (814) 10 ліпеня 2013 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднаўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва.



## Феномен Аляксандра Шакуціна

Карэспандэнты «Нашай Нівы» пагаварылі з мамай мультымільянера. Старонкі 4—5.



## Міс Мінск трапіла ў гісторыю

Пікантныя здымкі каралевы сталі самым чытаным матэрыялам года ў інтэрнэце. Старонка 8.

# Парад для аднаго гледача



Грандыёзнае святкаванне **3 Ліпеня** пакінула адчуванне фальшу і паказухі. Камертон Сяргея Ваганава — **старонка 8**.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Чалавек**

### Дом міласэрнасці Луіджы

Дапамагаеш бяздомным? Крымінальная справа. **Старонка 6.**



**Гутарка**

### Калінкіна: Магчыма, Лукашэнка разумее мае думкі

«Ён не можа не адчуваць, што краіна мяняецца». **Старонка 7.**



**Здарэнні**

### Купалле ў Алеся Пушкіна скончылася трагедыяй

Для гасцей гатавалі крупнік, адбыўся выбух. **Старонка 10.**



**Грамадства**

### Пяць прычын разводаў

Чаму ў Беларусі распадаецца так шмат сем'яў. **Старонка 15.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Даляр адолеў сімвалічную мяжу 9000 рублёў

9 ліпеня на Беларускай валютна-фондавай біржы даляр пераўзышоў абсалютны максімум, які быў узяты ў лістападзе 2011 года. Курс даляра склаў 8860 рублёў.

Тым часам курс продажу амерыканскай валюты ў банках адолеў сімвалічную мяжу 9000. Ад раніцы панядзелка «Банк БелВЭБ» і «Хоўм Крэдыт Банк» прадавалі даляры па 9000 рублёў. У іншых банках ён быў блізкі да гэтай рысы.

Беларусь па-ранейшаму купляе больш, чым прадае. Гэтым і тлумачыцца падзенне рубля.

Пры гэтым дэвальвацыі беларускага рубля фармальна няма. Ад пачатку года кошык валют нават патаннеў. Рэч у тым, што расійскі рубель сёлета слабее — у дачыненні да яго беларуская валюта ўзмацнілася амаль на 6%. Затое ў адносінах да даляра саслабела на 3%.

**Ягор Марціновіч**

## Самае чытанае на nn.by за 3—9 ліпеня

1 У інтэрнэце знайшліся новыя пікантныя фоты Міс Мінск з вечарынаў у Dozari

2 Усё новыя пікантныя фоты і факты: скандал вакол «Міс Мінск» разрастаецца

3 Пікантныя фоты Міс Дружба: працяг скандалу вакол конкурсу Міс Мінск

4 «Міс Мінск 2013» стала Яня Канцавенка — фотарэпартаж Сяргея Гудзіліна

5 «Нясціпла-скандальнае» фота «Міс Мінск — 2013»

6 Манумент на плошчы Сцяга зроблены з памылкай

7 Чалавек, які пакінуў камент пад нікам «Лучше не публиковаць», адгукніцеся

8 Міс Мінск: Люблю, калі пра мяне кажуць гадасці

9 Юнак збіў медыка-сірыйца ў электрычцы Орша-Мінск — фота і відэа

10 Да адкрыцця плошчы Сцяга: сапраўдныя беларускія сімвалы

**Каментар**

# Механізм перавароту: Егіпет

У краіне былі перабоі з электрычнасцю і вадой. Пасля адхілення ад улады прэзідэнта Мурсі бязладдзе рэзка спынілася. Так стала ясна, што перавароту папярэднічала змова арміі, буйных мэнэджараў і апазіцыі.

Апазіцыя заклікала да масавых дэманстрацый пратэсту. Армія заявіла, што будзе ахоўваць бяспеку людзей на вуліцах. Паліцыя намякнула, што нікога не будзе разганяць. А камунальнікі займаліся ціхім сабатажам.

У выніку на гадавіну інаўгурацыі прэзідэнта Мурсі на вуліцы Каіра выйшлі паўмільёна чалавек. Маніфестанты беспакарана спалілі сядзібы кіроўнай партыі. А масавыя пратэсты далі міністру абароны падставу для ўльтыматуму: выконвай, прэзідэнце, патрабаванні апазіцыі.

Міністры-неісламісты сышлі ў адстаўку, вайсковыя дарадцы таксама. Прэзідэнт здаць уладу адмовіўся, тады армія яго арыштавала. А разам з ім яшчэ 300 кіраўнікоў партыі «Браты-мусульмане». І закрыла блізкія да іх тэлеканалы.

Егіпцяне сапраўды былі незадаволеныя ўрадам Мурсі, бо, як і пасля кожнай рэвалюцыі, эканоміка прабуксоўвала. Але гэта быў дэмакратычна абраны ўрад.

«Браты-мусульмане» — гэта не «Аль-Каіда». Яны чымсьці нагадваюць нашых баптыстаў ці пяцідзясятнікаў: гэта людзі, якія шчыра веруюць і для якіх вера гэта галоўнае. Таксама яны дапамагаюць адзін другому, жывуць дружна. Вядома, усё гэта з ісламскім каларытам, тэмпераментам.

Вось такую сілу адхілілі ад улады ў Егіпце. Супраць іх выступалі афіцэры, іх баяліся хрысціяне-копты, нават традыцыйнае мусульманскае духавенства асцерагалася іх палымянасці. Таму падчас абвяшчэння адстаўкі Мурсі поплеч з міністрам абароны стаялі копцкі патрыярх і мусульманскі муфтый.

Пад «Братоў-мусульман» капала былая наменклатура часоў Мубарака і журналісцкая супольнасць, якая ва ўсіх краінах трымаецца больш ліберальных поглядаў. Галоўнай жа вулічнай сілай была гарадская моладзь.

Еўрасаюз з ЗША — вялікія спонсары Егіпта — хутчэй радыя таму, што да ўлады прыйшлі прадказальныя для іх сілы.

Так скончыўся першы эксперымент кіравання ісламістаў у вялікай арабскай краіне.

Як Вялікая французская рэвалюцыя ўзрушыла Еўропу, якой уже не суджана было стаць ранейшай, так Арабская вясна прынесла перамены ў ісламскі свет, і канец гэтага працэсу яшчэ далёка.

**Мікола Бугай**

### Цяпер падпісацца можна і праз банкаматы, і праз інтэрнэт-банкінг!

Рэдакцыйную падпіску можна аплаціць і з банкаўскай карткі, праз банкаматы, праз інтэрнэт-банкінг, плацежныя сістэмы. Шукайце «Нашу Ніву» ў раздзеле «СМІ» сістэмы ЕРІП. Гэта надта зручна, хутка, выгадна!

Больш інфармацыі знойдзеце на сайце NN.BY (у правым верхнім кутку).



# На другое паўгоддзе яшчэ можна падпісацца! Падпішыцеся самі, падпішыце блізкіх!

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15750 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18911 руб./месяц.

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

### Банкаўскія рэквізіты:

ПВУП «Суродзічы»,
УНП 190 786 828
Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк»,
вул. Калектарная, 11,
Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Частае пытанне: як запаўняць графу «рахунак на аплату»

Пры аплаце ў банку ці на пошце, **бывае, узнікаюць пытанні пра новую графу «рахунак на аплату», «счет на оплату».** Кажыце, каб яе проста прапускалі. Гэты нумар ствараецца толькі пры аплаце праз сістэму ЕРІП (інтэрнэтныя плацежныя сістэмы, пры аплаце праз інтэрнэт-банкінг). Пры аплаце з пошты, банка, як звычайна, ён не патрэбны. Кажыце, што вы плаціце за газету накладзеным плацяжом, а не праз ЕРІП.

# Пяць фактаў пра хаацічэскую Надзею Каткавец


PHOTO BYMEDIA.NET

Яркая прадстаўніца лукашэнкаўскага саўгаса «Гарадзец» **вяртаецца ў Мінск**.

Надзея Каткавец стала намесніцай Віктара Шэймана ў кіраўніцтве справаў прэзідэнта.

Дагэтуль яна працавала ў Маскве — была дырэктарам дэпартамента аграпрамысловай палітыкі Еўразійскай эканамічнай камісіі. Праца была не надта складаная, затое прыбытковая. А яшчэ раней Каткавец працавала намесніцай міністра сельскай гаспадаркі.

### 1. Шклоўская

Надзея Каткавец нарадзілася на Палессі, у вёсцы Тышкавічы Іванаўскага раёна ў 1960. Аднак слава і ўлада прыйшлі да яе ў іншых краях.

Пасля працы ў Тамбоўскай вобласці Надзея трапіла ў шклоўскі саўгас «Гарадзец», той самы якім кіраваў Аляксандр Лукашэнка. Каткавец працавала ў яго галоўным эканамістам.

### 2. «Усход»

Сваю былую падначаленую кіраўнік дзяржавы не забыўся. Стаўшы прэзідэнтам, прызначыў яе кіраўніком узорнага калгаса «Усход» у Атоліне пад Мінскам.

Міністэрскую кар'еру Каткавец пачала ў 2003. З атолінскага «Усходу» яе перавялі на пасаду намесніцы, а пасля і першай намесніцы міністра сельскай гаспадаркі. На сваёй пасадзе яна была адным з галоўных доўгажыхароў сярод лукашэнкаўскіх чыноўнікаў.

### 3. Шматдзетная маці

У Атоліне Каткавец пабудавала свой дом, туды перавезла з Тышкавічаў старэнькую маму.

У самой Надзеі чацвёра дзяцей, і ўсе хлопцы.

А вось наконт яе мужоў інфармацыі няма. Ды і прозвішча ў чыноўніцы засталося дзявочае. А вось у аднаго з сыноў прозвішча Гарбузаў.

### 4. Любіць гісторыю, дэкаратыўныя кветкі і піражкі

У інтэрв'ю «Звяздзе» чыноўніца расказала пра свае разнастайныя хобі.

Надзея любіць гісторыю, асабліва перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Пасля школы хацела паступаць на гістфак Брэсцкага педінстытута, прызнавалася яна.

У вольны час Каткавец гатуе піражкі — з сасіскамі, варанай каўбасой, згушчонкай... А таксама даглядае некалькі дзясяткаў вялікіх вазонаў з дэкаратыўнымі кветкамі.

Сярод відаў спорту яна аддае перавагу баскетболу і скачкам у вышыню.

### 5. Хаацічэская прамоўца

Каткавец магла застацца адной з мноства шэрых чыноўнікаў, пра існаванне якіх узгадваюць толькі падчас іх адстаўкі, калі б не незвычайная манера маўлення.

Можна сказаць, што яна гаворыць па-беларуску рускімі словамі.

Відэа з яе прэс-канферэнцый глядзяць дзясяткі тысяч чалавек, а яе «хаацічэскі сложаныя цэны» сталі інтэрнэт-мемам. «Я думаю, што как бы нам у гэтай связі ў аб'ясненні этаму вапросу і можэт быць дажа не этаму вапросу, а как бы нашай пазіцыі, што лі да... — што ўсё-такі мы яшчэ далеко па многіх пазіцыях ад міравых цэн і ад цэн... і ад цэн, на прадукцыю каторых даходзіць да канечнага пакупацеля ў нашых... у нашых странах... странах нашы... саседзяў» — вось узор яе прамовы.

Зрэшты, пры ўсёй нязвязнасці свайго маўлення Надзея Каткавец — добра адукаваны чалавек. Яна скончыла два ВНУ. У 1987 — Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію, а ў 2006 — прэзідэнцкую Акадэмію кіравання.

**Ягор Марціновіч**

## Спецслужбы раскрылі акалічнасці справы Гайдукова

Хлопец нібыта прапаноўваў паслугі ЦРУ, але **ліст аказаўся ў КДБ**.

Па словах супрацоўнікаў КДБ і пракуратуры, у жніўні 2012 чэкісты атрымалі аператыўную інфармацыю, што 23-гадовы рабочы завода «Нафтан» Андрэй Гайдукоў напісаў у ЦРУ ліст, у якім на англійскай і расейскай мовах прапанаваў свае паслугі. Пры гэтым Гайдукоў даслаў ліст не звычайнай поштай, а перадаў яго свайму сябру, каб той адправіў канверт з тэрыторыі іншай дзяржавы. Паведамляецца, што той ліст спецслужбы «перахапілі пры надглядзе ў аэрапорце», бо, маўляў, ужо «раней дзеянні сяброў выклікалі падазрэнні».

Насамрэч, гаворка, найхутчэй, можа ісці ад інфарматару КДБ з ліку блізкіх да Гайдукова асобаў, які паведаміў пра яго намер.

Па словах першага намесніка пракурора Віцебскай вобласці Аляксандра Сідаровіча, Гайдукоў прапаноўваў замежнай спецслужбе тры варыянты шыфраванай сувязі з сабой у выглядзе рамантычных пасланняў.

Пасля гэтага КДБ пад выглядам ЦРУ тры месяцы вёў з недарослым Джэймсам Бондам аператыўную гульню, кожны крок фіксуючы на фота, відэа і аўдыё. Першую сустрэчу Гайдукову прызначылі пад Гроднам.

У час гэтай гульні аператару завода «Нафтан» ад імя ЦРУ прапанавалі выканаць першае канкрэтнае заданне — пранесці да сябе на працу і ўсталяваць шпіёнскую праграму для перадачы звестак. Калі стала зразумела, што чалавек дзейнічае свядома і па ўласнай ініцыятыве, і што за ім больш ніхто не стаіць, было вырашана правесці затрыманне. На Гайдукова начапілі кайданкі, калі ён забраў зназванага яму тайніка грошы за сваю працу. Гаворка ідзе пра 300 даляраў. Тайнік агенты КДБ заклалі зрабілі ў адной з тратуарных плітачак каля амфітэатра ў Віцебску.

У Наваполацку Гайдукоў з невялікай групай сяброў належаў да суполкі «Саюз інтэлектуалаў». Назіральнікі адзначалі, што сама гэтая арганізацыя, якая не вяла ніякай рэальнай дзейнасці, выглядае як псеўдаструктура, створаная спецслужбамі для збору інфармацыі пра апазіцыю.

Пракуроры і следчыя лічаць, што Гайдукоў быў упэўнены, што ён сапраўды працаваў з ЦРУ і нават баяўся помсты з іх боку за свой агентурны правал. І толькі ў турме зразумеў, што яго «развялі».

Паколькі ніякай рэальнай інфармацыі Гайдукоў не перадаў, то суд перакваліфікаваў справу са шпіянажу ва «ўстанаўленне супрацоўніцтва з замежнай дзяржавай без прыкметаў здрады радзіме». Гайдукову далі паўтара года турмы, аднак з улікам таго, што 8 месяцаў ён ужо адседзеў у СІЗА, неўзабаве можа выйсці на свабоду ўмоўна-датэрмінова.

Пасольства ЗША ў Мінску раней адмовілася неяк каментаваць інфармацыю пра справу Гайдукова.

Суд над Гайдуковым быў закрыты. Мусіць, спецслужбы не хацелі засвечваць імя чалавека, які расказаў ім пра «намеры» Гайдукова. Сыходзячы з закрытасці суда, праваабаронцы былі схільныя прызнаць асуджанага палітвязнем, на аснове таго што Гайдукоў удзельнічаў у апазіцыйнай дзейнасці. Магчыма, новаапублікаваная інфармацыя зменіць іх падыход да гэтай справы.

**Сяргей Гезгала**

**Фотафакт**

### Зазірнуць у кожны люк

На праспектах Пераможцаў і Машэрава, перад парадам, працавала служба аховы Лукашэнкі. Маладыя людзі з металашукальнікамі прачасалі ўсе газоны. Іншыя супрацоўнікі правяралі кожны каналізацыйны люк.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Феномен Аляксандра Шакуціна

**Як вясковы хлопец, які ледзь паступіў у інстытут, стаў адным з найбагацейшых бізнэсмэнаў Беларусі.**

Старшыня рады дырэктараў «Амкадора» і сенатар Аляксандр Шакуцін за апошнія некалькі месяцаў стаў яркай медыйнай персонай. Імя мільянера, які займаў пятае месца ў пазалеташнім рэйтынгу самых паспяховых і ўплывовых бізнэсоўцаў краіны, толькі лянівы не ўзгадаў ў сувязі з «Еўрабачаннем». У фінал конкурсу праціснулася ягоная пратэжэ Алёна Ланская. «Стаўленне да Беларусі стала больш перадузятым», — апраўдваўся мільянер, калі спявачка не перамагла.



ВОЛЬГА ЛОЙКА, TUT.BY

**Аляксандр Шакуцін**

Нарадзіўся 12 студзеня 1959 ў вёсцы Вялікае Бабіна Аршанскага раёна. Скончыў Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут. Працаваў інструктарам, загадчыкам сектара Цэнтральнага камітэта ЛКСМБ. Пасля заканчэння клінічнай ардынатуры працаваў загадчыкам хірургічнага аддзялення 10-й мінскай гарадской бальніцы, галоўным доктарам медсанчасткі, дырэктарам медцэнтра МТЗ, прэзідэнтам НВА «Праммедінвест».

Цяпер — член савета рэспублікі, член прэзідыума «Белай Русі», старшыня рады дырэктараў «Амкадора», намеснік гендырэктара па пытаннях перспектыўнага развіцця «ПМІ Груп», старшыня Беларускай тэніснай федэрацыі, член Савета па развіцці прадпрымальніцтва пры прэзідэнце Беларусі.

**Аляксандр Шакуцін рэалізаваў сваю беларускую мару.**

### «Я не магу без работы!»

Хто ведае Шакуціна найлепш? Гэта ягоныя родныя. Карэспандэнты «Нашай Нівы» выправіліся ў вёску Вялікае Бабіна, што на Аршаншчыне. Менавіта тут у 1959 годзе нарадзіўся Аляксандр Шакуцін, якому было наканавана стаць адным з самых багатых людзей Беларусі.

«Сашка Шакуцін? Дык вось там ягоны дом, жоўты такі, — махае рукой жыхарка вёскі. — А вы з ім размінуліся. Ён якраз учора прыязджаў». Як высветлілася пазней, на выходныя да маці заехаў іншы сын, Сяргей.

Грукаемся ў дзверы хаты Шакуціных, ды ўсё марна. Ніхто не адмыкае, нікога няма і на гародзе. З дома насупраць выходзіць суседка Люся. Яна хвалюецца: ці не здарылася нешта з бабай Кацяй — і выпраўляецца на пошукі.

Нарэшце старую ўдаецца знайсці ў полі за хатай. Як родныя ні прасілі бабулю Кацярыну берагчы здароўе і больш не займацца фізічнай працай, на месцы яна сядзець не можа. «Я не магу без работы! Хоць крычалі на мяне: нашто табе ўсё гэта, — апраўдваецца яна. — Але я і кашу яшчэ сама». Між іншым, ёй ужо 84 гады! «Як жа працаваць хочацца! — баба Каця разважае як тыповая беларуска. — Хоць сілаў няма, дык думаю, хоць аеру нарву».

Нашаніўцам даводзілася бываць у хатах блізкіх сваякоў многіх уплывовых беларусаў — Макея, Мясніковіча, Абельскай... Жыллё Шакуціных выглядае на іх фоне самым сціплым. У вочы адразу кідаецца сувенірны гадзіннік «Амкадора» на сцяне.

«Я ж пра сваіх дзяцей толькі добрае скажу!» — смеючыся, папярэджвае баба Каця і пачынае расповед пра гаротны лёс сям'і Шакуціных.

### Нямецкая вязніца

Сваю маму яна амаль не памятае — толькі як тая ў бальніцы давала дачцы цукерку. Мама захварэла і памерла, калі Каця была зусім маленькая.

Бацька сышоўся з іншай, але адносіны ў дзяцей ад першага шлюбу з мачахай не склаліся. Іх было пяцёра, дык яшчэ ў бацькі з мачахай — сваіх чацвёра. Жанчына ж дбала толькі аб сваіх малых.

Кацярына паспела скончыць тры класы мясцовай школкі, а пасля пачалася вайна.

Бацька ў вайну знік без вестак, старэйшы брат загінуў у партызанах, а Кацю разам з сястрой забралі ў лагер у Германію. Але і з палону яна ўзгадвае кранальную гісторыю, як немец-наглядчык, які выганяў беларусаў капаць акопы, браў рыдлёўку і капаў замест яе.

**Іменем Шакуціна**

Калі ў 2008 у Оршы праходзілі Дажынкі, Люся, суседка бабы Каці, напісала заяву мясцовым уладам ад імя чатырох «нямецкіх вязняў». Патрабавала пакласці асфальт вакол вёскі.

Нічыіх прозвішчаў яна не ведала, таму назвала Кацярыну Шакуціну. Баба Каця, даведаўшыся, раззлавалася: «Ды хто я такая, каб дзеля мяне вуліцу асфальтавалі?! Прыйдуць скажуць: ды ёй паміраць ужо трэба, а яна вуліцы хоча! Ды я б ніколі такое не напісала!» Аднак было ўжо позна. Пачуўшы прозвішча «Шакуцін», раённыя ўлады ўзялі пад казырок. У Вялікім Бабіне паклалі «дажынкавы» асфальт.

Калі вярнулася ў родную вёску, да мачахі ні яна, ні браты-сёстры не пайшлі. Тая жыла з новымі кавалерамі, а падлеткі прытуліліся каля дзеда.

### Замест школы — на працу

Пасля вайны Каця пайшла ў чацвёрты клас школы. «Дзіцятка, а хто ж цябе карміць хлебам будзе, што ты ў школу пайшла?» — запытаўся ў яе стары-сусед. Вучобу давялося кінуць...

Тры гады Каця пешшу насіла пошту па вёсках. Калі хто і прапаноўваў падвезці — дзяўчына адмаўлялася. «Баялася, — тлумачыць яна. — Гэта цяпер дзеці смелыя».

Пасля пошты пайшла даяркай у калгас. Тады ўжо Каця была ў шлюбе. Муж Васіль быў лесатэхнікам. Са слязьмі на вачах жанчына ўзгадвае, як яны разам будавалі свой дом, як нажывалі гаспадарку. «Калі б цяпер беларусы працавалі так, як пасля вайны, то жылі б багата», — пераканаваная яна.

Першай нарадзілася дачка Надзея, пасля сын Саша. Бацька загінуў, калі Аляксандру не было і трох гадоў.

Свайго малодшага сына, Сяргея, Кацярына нарадзіла ад другога мужа, трактарыста.

«Можа, я б і да пенсіі не дажыла, калі б не гэтыя меншы, — баба Каця выцірае слёзы. — Такі паслухмяны хлопчык быў, харошы, дапамагаў...»

Аднак з ягоным бацькам так і не распісалася, хоць разам пражылі ажно 23 гады.

### Усё дзецям

Кацярына так і засталася непісьменнай, але ўсе свае сілы ўклала ў дзяцей: толькі каб яны вывучыліся.

Вучоба Аляксандру давалася сярэдне. «Не буду хваліцца, што на пяцёркі вучыўся, — прызнаецца мама. — Калі казалі «перапішы памылку», ён адказваў, што ўжо напісаў і больш перапісваць не будзе».

Саша быў спакойны, нават сарамлівы. Схадзіць да суседа, каб нешта ўзяць — нават вярнуць сваё — было для яго вялікай праблемай.

Баба Каця расказвае, што сын дапамагаў ёй даіць кароў на ферме. «Я яму лягчэйшых давала», — смяецца яна.

Дзеці ў вёсцы маглі зарабіць тым, што дралі лазу і здавалі яе. Так Аляксандр Шакуцін зарабіў свае першыя грошы. «Я з дзяцінства быў чалавекам практычным, — узгадваў ён у размове з «Камсамолкай». — Мне вельмі падабаўся галоўны герой кнігі «Угрум-рака», і мне захацелася, каб у мяне быў свой завод. Няважна, які завод, абы завод».

Грошы меў, але не скваціічаў, узгадвае маці. Старэйшая сястра выйшла замуж, а ў яе мужа не было добрай курткі. Дык Саша вырашыў даць яму грошай на вопратку.

На дачку ў бабы Каці часу хапала менш. Пасля школы Надзея ўладкавалася на мясакансервавы камбінат, а цяпер жыве ў Оршы ды працуе на рынку. На зіму маці пераязджае жыць да яе.

### Паступіў з другой спробы

Чаму Аляксандр вырашыў звязаць сваё жыццё з медыцынай? Сваяк, які быў вайскоўцам, падказаў, што хлопцаў у інстытут бяруць прасцей, чым дзяўчат.

Але з першай спробы паступіць у Мінску ўсё адно не ўдалося. Давялося вярнуцца ды папрацаваць год трактарыстам у мясцовым калгасе «Радзіма».

Праз год Аляксандр вырашыў перастрахавацца і пайшоў на падрыхтоўчыя курсы. «Мама, баюся, усякае можа быць. Раптам не паступлю? — тлумачыў ён сваё рашэнне. — А з падрыхтоўчых курсаў бяруць усіх, нават з тройкамі». Узялі. Так Аляксандр стаў студэнтам Мінскага медыцынскага інстытута (цяпер Медуніверсітэт).

### Камсамолец-будаўнік

Аляксандр вучыўся на хірурга. Было цяжка, узгадвае баба Каця. Кожную аперацыю ён прымаў блізка да сэрца. Пакуль хворы не выходзіў з-пад наркозу, Аляксандр не мог сысці дамоў — так перажываў.

Універсітэцкія гады сталі часам першага трыумфу Шакуціна. Ён даслужыўся да пасадаў сакратара камітэта камсамола інстытута і загадчыка сектарам Цэнтральнага камітэта Ленінскага камсамола БССР.

Актывіст-камсамолец арганізоўваў студэнцкія будаўнічыя атрады, з якімі катаўся па ўсім СССР. Тыя часы прынеслі яму добрыя грошы, узгадвае маці. Хватка дазваляла яму зарабляць там, дзе іншыя працавалі «ў нуль».

Баба Каця кажа, што тады ж малады спецыяліст атрымаў у Мінску трохпакаёвую (!) кватэру.

А вось у войску будучы мільянер не служыў. Чаму — маці не ведае.

У медыцынскі тым часам паступіў і меншы брат Сяргей. Чаму хлопец не ўзяў прозвішча свайго бацькі? Заставацца Шакуціным яму параіў Аляксандр. Матывацыя простая: калі старэйшы брат ва ўніверсітэце на добрым рахунку, значыцца, будзе лягчэй і малодшаму.

### Жыццёвы паварот

І тут у кар'еры Шакуціна адбываецца рэзкі ўздым. «Пасля заканчэння ардынатуры медінстытута працаваў загадчыкам хірургічнага аддзялення 10-й мінскай бальніцы», — гаворыцца ў ягонай біяграфіі. «Я прайшоў шлях ад доктара ... да дырэктара медыцынскага цэнтра МТЗ, які я ствараў з нуля», — хваліўся ён «Камсамолцы».



ЯГОР МАРЦІНОВІЧ

**Хата Шакуціна ў Вялікім Бабіне нічым не вылучаецца на фоне суседскіх.**

Удакладнім, што медсанчастка МТЗ, якую Шакуцін ачоліў, насамрэч была заснаваная ў 1947.

«Калі я сыходзіў з МТЗ, то са мной сышло каля 50 чалавек, у тым ліку некалькі намеснікаў кіраўніка МТЗ», — дадае ён Tut.by. Нібыта ўзніклі супярэчнасці з кіраўніцтвам завода.

Кацярына Шакуціна пераказвае словы сына: зарабіць вялікія грошы ў медыцыне было немагчыма. Але, відаць, вельмі хацелася. Таму з медыкаў Шакуцін канчаткова перакваліфікоўваецца ў бізнэсоўцы.

## Камсамол назаўжды

Ён становіцца прэзідэнтам навукова-вытворчага аб'яднання «ПрамМедІнвест». Нескладана правесці паралель з цяперашнім бізнэсам Шакуціна — «ПМІ Груп».

Чым магла займацца кампанія са словам «інвест» у назве ў пачатку 1990-х? Продажам і купляй усяго, што можна. Пасля было вырашана спыніцца на дарожнай тэхніцы.

Вядома ж, дзейнічаў Шакуцін не адзін. Цяперашнія партнёры мільянера, па ягоных словах, «сябры і былыя калегі з камсамола, медыцыны і МТЗ». Напрыклад, Ігар Субоцін, з якім Шакуцін на роўных стварыў «ПМІ-груп», у свой час адказваў за замежнаэканамічную дзейнасць МТЗ. Цяпер ён запісаны памочнікам сенатара ў савеце рэспублікі. Праўда, на грамадскіх пачатках. Іншы дармавы памочнік сенатара, Яраслаў Буяльскі, працаваў разам з Шакуціным у камсамоле.

## Росквіт «Амкадора»

...У пачатку 1990-х у Беларусі пачынае грымець назва завода «Амкадор» (былы «Дармаш»). Ягоны дырэктар Васіль Шлындзікаў праводзіць акцыянаванне прадпрыемства — першае ў краіне. Каштоўныя паперы прадаюцца работнікам.

Завод пачаў падрыхтоўку да акцыянавання яшчэ да развалу СССР. Калі ўтварылася незалежная Беларусь, рэвізійная камісія пераацаніла активы «Амкадора». Акцыі падаражэлі больш чым на 20%. Неўзабаве правяраючыя прыйшлі зноў: нібыта былі няправільна выкарыстаныя чэкі «Маёмасць» на выкуп акцый. «Амкадор» здолеў адстаяць у судзе сваю рацыю.



БЕЛТА

**Працаваць на суботніку побач з Лукашэнкам перспектыўна для прыватнага бізнэсу.**

У сярэдзіне 1990-х на прадпрыемства прыйшла яшчэ адна праверка, якая запатрабавала вярнуць дзяржаве 85% акцый. Суд зменшыў патрабаванні. Давялося аддаць 15% акцый.

Да памылак падчас прыватызацыі пачатку 1990-х дзяржава апелявала пры фактычнай нацыяналізацыі кандытарскіх фабрык «Камунарка» і «Спартак». У беларускіх рэаліях пры жаданні ўлады выказаць падобныя прэтэнзіі можна і да «Амкадора».

Васіль Шлындзікаў тым часам працягваў рэфармаванне завода. Да часоў прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі «Амкадор» перажывае залаты век. Заробак на прадпрыемстве тады быў у некалькі разоў вышэйшы за сярэдні па краіне.

Шлындзікаў узначальвае Камісію па эканамічнай палітыцы і рэформах у Вярхоўным Савеце ды актыўна падтрымлівае ліберальную апазіцыю. Урэшце ён канцэнтруецца на палітыцы. З пасады прэзідэнта «Амкадора» ён сыходзіць у 1996. У канцы таго ж года банкрутуе замежнагандлёвая фірма прадпрыемства.

## Змена ўласніка

Наступныя гады «Амкадора» былі не беднымі і не багатымі. Сітуацыя змянілася, калі ў пачатку стагоддзя на завод прыйшоў інвестар. У 2001 у яго руках аказалася 67% акцый прадпрыемства.

«Беларускія ўласнікі «Амкадора» — выхадцы з МТЗ, Шакуцін і Субоцін. А два гаспадары-непальцы даўно жывуць у Беларусі, закончылі калісьці наш політэхнічны інстытут. Кажуць, адзін з іх — далёкі сваяк непальскага караля, можа, таму ён меў грошы на куплю акцый», — напісаў у кнізе ўспамінаў генеральны дырэктар «Амкадора» ў 2000—2002 Міхаіл Парэпка.

Як адбываўся працэс змены ўласніка? «Непальскія і беларускія «людзі з грашыма» пачалі скупляць акцыі спачатку ў юрыдычных асобаў, прадпрыемстваў сістэмы «Амкадора», якія мелі па 10—12% акцый, а пасля і ў фізічных асобаў, — узгадвае ён. — Плацілі па $15—20 за штуку. Людзі спакусіліся шанцам атрымаць за акцыі грошы. Зразумела, што пралічыліся».

«На першым этапе гэтай скупкі ніхто не думаў, што ўсё так абернецца... Але рэйдарскага захопу не было», — падсумоўвае Міхаіл Парэпка.

## Адна рука тут, другая там

У новым кіраўніцтве «Амкадора» старшынёй рады дырэктараў стаў менавіта Шакуцін. Пры гэтым кантрольнага пакета акцый у яго не было — асноўным уласнікам усё ж заставаліся непальцы.

Затое Шакуцін браў іншым. Ён меў дзве падкантрольныя структуры, «Спамаш» і згаданую вышэй «ПМІ-груп». Кампаніі, сярод іншага, абслугоўвалі патрэбы «Амкадора», у прыватнасці займаліся продажам тэхнікі на расійскі рынак.

## Актыўная грамадская пазіцыя

Васіль Шлындзікаў характарызуе Шакуціна як даволі талковага кіраўніка. Маўляў, калі столькі часу трымае прадпрыемства ў сваіх руках, гэта дарагога варта.

Разнапланавасць Шакуціна дазваляла яму знаходзіць ўсё новыя і новыя счэпкі з уладай. Трэба праявіць вывераную палітычную пазіцыю — і вось ён член прэзідыума «Белай Русі». Паклапаціцца пра спорт — цяпер Шакуцін кіраўнік тэніснай федэрацыі, пакінутай іншым мільянерам Уладзімірам Пефціевым. Стаць культурным мецэнатам — і вось Алёна Ланская штурмуе «Еўрабачанне». Такі спрыт ледзь не давёў Шакуціна да санкцый Еўрасаюза. У ЕС яго лічаць «асабістым кашальком Аляксандра Лукашэнкі». «Я расцэньваю гэта як прызнанне мяне кіраўніком, які ўносіць важны ўклад у развіццё эканомікі Беларусі і з'яўляецца патрыётам сваёй краіны», — каментуе ён сітуацыю.

Шакуцін тым часам падбіраў чыноўнікаў, выкінутых за борт дзяржаўнага кіравання. Ці не для таго, каб лабіраваць свае інтарэсы праз іх кантакты? «Нам сувязі не патрэбныя. Мы працуем ў рынкавых умовах, ствараем прадукт і прадаем яго ў асноўным на замежныя рынкі», — прыгожа адказаў ён Tut.by, узяўшы на працу былога дарадцу Аляксандра Лукашэнкі, заўзятага антырыначніка Сяргея Ткачова. Апроч яго, у сістэме «Амкадора» апынуліся былы кіраўнік «Беллегпрама» Эдуард Нарышкін і былы кіраўнік МАЗа Мікалай Касцень.

І ўсе ў дзяржапараце ведаюць: калі ты ў добрых адносінах з бізнэсоўцам, то пасля адстаўкі можаш разлічваць на грашовую пасаду.

## Загадкавы партнёр

Сёлета раптоўна змяніўся галоўны акцыянер «Амкадора». У выніку дадатковай эмісіі 54% ад статутнага фонду выкупіў наваполацкі бізнэсмэн Мікалай Варабей, які валодае кампаніяй «Інтэрсервіс» па перапродажы нафтапрадуктаў. Ён заплаціў $77 мільёнаў — гіганцкія грошы, але замалыя для размаху «Амкадора».

У шоку былі многія, у тым ліку, здаецца, і сам Варабей. Былы віцэ-прэзідэнт «Амкадора» Генадзь Зіноўчык пасля сёлетняга сходу акцыянераў расказаў «Народнай волі» пра свае ўражанні ад новага кіраўніка, які сядзеў у зале як мыш пад венікам.

«Я папрасіў яго адказаць на тры пытанні. Па-першае, назваць памер статутнага фонду фірмы «Інтэрсэрвіс». Па-другое, агучыць, хто заснавальнікі гэтай кампаніі. І трэцяе пытанне, чаму, ніколі не займаючыся машынабудаваннем, вы вырашылі купіць «Амкадор»? Адказы былі проста смешныя. Памер статутнага фонду — «вялікі». Аб заснавальніках «Інтэрсэрвіс» ён нават не стаў гаварыць. А матыў?» Ён мяркуе, што Варабей — падстаўная фігура.

Нялішнім будзе нагадаць, што летась Шакуцін хацеў набыць акцый «Амкадора» на $500 тысяч як фізічная асоба. Інфармацыя пра паспяховасць задумы не з'яўлялася.

## Сям'я пры бізнэсе

За працай нельга забывацца і пра сям'ю. «Будзеш у медыцыне працаваць, ніколі не будзеш добра жыць», — раіў Аляксандр свайму зводнаму брату Сяргею. Той з жонкай не надта верыў у гэтыя словы. «А нядаўна нявестка сказала, маўляў, прабач, Саша, так, як цяпер, мы ніколі не жылі!» — расказвае баба Каця.

Сяргей Шакуцін кіруе сеткай аптэк «Іскамед», суўласнікам якой з'яўляецца брат. «Калі стваралася кампанія, у яе было 7 заснавальнікаў. Было прапанавана некалькі кандыдатур на пасаду генеральнага дырэктара, я прапанаваў свайго брата і ў адказ пачуў, што ён мяккі і добры па характары, не зможа патрабаваць ад супрацоўнікаў руплівай працы. Я ж быў упэўнены, што ў Сяргея ёсць усе якасці, каб быць лідарам. Я быў вымушаны гарантаваць яго будучыя поспехі сваёй доляй уласнасці ў кампаніі», — расказаў Аляксандр Tut.by.

Поспеху дасягнуў і сын Шакуціна, таксама Аляксандр. Ён адвучыўся на юрфаку БДУ, а некалькі гадоў таму ўзначаліў бацькавы холдынг «Спамаш». Са сваёй жонкай Аляксандр-малодшы пазнаёміўся ў сацыяльных сетках.

## «Я не змагу, я вярнуся»

«Ці не хацелі перабрацца бліжэй да сыноў?» — пытаемся ў Кацярыны Шакуцінай. «Дык яна там ужо пабыла!» — устаўляе сваё слова суседка Люся.

Аляксандр прапанаваў перавезці маму ў Заходнюю Беларусь — там трымаць гаспадарку лягчэй. Пераканаў. Разам з каровай баба Каця пераехала ў аграгарадок Сакаўшчына пад Валожынам, дзе ў Шакуціна стаіць лецішча. Завяла свінняў, стала абжывацца... Але за пяць гадоў прывыкнуць да тамтэйшага ладу жыцця яна так і не змагла. Здараліся бяда за бядой.

Раптоўна памерла ўнучка Марыйка, дачка Аляксандра. Менавіта ёй прысвечаная назва прадзюсарскага цэнтра «Спамаш» — «Светлай памяці Марыі Шакуцінай». «Я ж яе глядзела яшчэ маленькай, — плача баба Каця. — Прырасла да гэтага дзіцяці... Больш за ўсіх перажывала».

А пасля карова, няўдала павярнуўшыся, прыціснула бабу Кацю да кута. Немаладая жанчына зламала некалькі рэбраў. Не сказаўшы нікому, яна сабралася і паехала назад у Вялікае Бабіна.

«Я ж усім казала: я не змагу, я вярнуся», — узгадвае баба Каця. Але пакуль гаспадыні не было дома, суседзі павыносілі рэчы з хаты...

## Еўрабачанне

Для многіх беларусаў, далёкіх ад палітыкі, Шакуцін — перадусім спонсар Алёны Ланской. Першая спроба трапіць на «Еўрабачанне», падмацаваная адміністратыўным рэсурсам, скончылася разборкамі на нарадзе ў Лукашэнкі. Было прызнана, што вынікі галасавання сфальсіфікаваныя. Шакуцін жа перакананы: члены журы тады змовіліся... супраць Ланской! «На 100% упэўнены, што Алёна летась перамагла! Чаму змянілі меркаванне асобныя члены журы, я магу толькі здагадвацца», — заявіў ён на Tut.by. Адміністратыўны рэсурс? «Гэта былі фальшыўкі!»

...Баба Каця глядзіць на гэтую мітусню з вышыні сваіх 84 гадоў — дзяцінства, якое супала з вайной, працы замест вучобы ў школе ды жыцця, прысвечанага таму, каб яе дзеці выраслі і сталі сумленнымі людзьмі. «А вы глядзелі «Еўрабачанне»? — «Ой не, мне такое не цікава!» — смяецца яна.

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч**

**Прыбытак і дывідэнды**

За апошнія сем гадоў чысты прыбытак «Амкадора» (без уліку падраздзяленняў) склаў больш за $120 мільёнаў. Але апошні раз дывідэнды, хай і драбнюткія, акцыянеры атрымлівалі ў 2006 годзе.

| | Прыбытак | Дывідэнды |
|---|---|---|
| 2006 | $23,8 мільёна | $24 тысячы |
| 2007 | $23,3 мільёна | 0 |
| 2008 | $26,3 мільёна | 0 |
| 2009 | $2,4 мільёна | 0 |
| 2010 | $11,2 мільёна | 0 |
| 2011 | $26,2 мільёна | 0 |
| 2012 | $7 мільёнаў | 0 |



FACEBOOK.COM

**Аляксандр Шакуцін-малодшы падчас італьянскага адпачынку**

# Дом міласэрнасці Луіджы

**Верніка, які дапамагае бяздомным, абвінавацілі ў сектанцтве і завялі крымінальную справу.**

Дом міласэрнасці, заснаваны Аляксеем Шчадровым, працуе ў вёсцы Аляксандраўка Шчучынскага раёна. Карэспандэнт «Нашай Нівы» наведаў незвычайную ўстанову і паглядзеў, ці насамрэч там дзейнічае рэлігійная секта.

У вёсцы добра калі набярэцца дваццаць хат, аднак заселеных з іх яшчэ менш. Адразу тры хаты займае прытулак для бяздомных, арганізаваны Аляксеем Шчадровым, якога ў вёсцы ўсе ведаюць як Луіджы — такое імя ён узяў, калі прыняў паслушэнства.


Аляксей Шчадроў ля хаты, якую набыў першай.

### «Пачні з каранёў»

«Я гадаваўся ў Наваполацку, у сіроцкім інтэрнаце. З дзяцінства цягам сямі гадоў ездзіў на ўсё лета ў Італію і жыў у тамтэйшай сям'і, — узгадвае Аляксей. — Аднак у Італіі здарыўся трагічны выпадак: загінула дзіця з Беларусі, таксама сірата. І Лукашэнка загадаў, каб усіх дзяцей, якія ездзілі ў гэтую краіну, вярнулі назад. Нейкім чынам вярталі нават дзяцей, якіх усынавілі італьянскія бацькі. Так я зноўку аказаўся ў інтэрнаце. Пасля паступіў у медвучэльню, атрымаў спецыяльнасць фельчара і працаваў у хуткай дапамозе».

Вернікам Аляксей стаў нядаўна, ужо калі працаваў фельчарам. «Гоcпад пасылаў мне знакі, і я зразумеў, што мне трэба дапамагаць бедным і абяздоленым, — працягвае ён. — Тады я прыйшоў да мітрапаліта Кандрусевіча і папрасіў яго дабраславіць мяне. Кандрусевіч дабраславіў і сказаў: «Я не ведаю, з чаго ты пачнеш, як ты будзеш дапамагаць бедным, бо ты сам бедны». Ён параіў мне пачынаць з каранёў. І я пачаў з каранёў: стаў шукаць хаты для дома міласэрнасці. Пытаўся ў вернікаў у касцёле, і мне дапамагалі хто чым мог. У выніку мне прадалі хату ў вёсцы Аляксандраўка. Танна, за $500. І грошы на яе дасылалі з усёй Беларусі — людзі самі даведваліся, чым я займаюся, і ахвяравалі. Потым мы набылі яшчэ дзве хаты ў Аляксандраўцы».


Ганна — адзіная жанчына, што засталася ў прытулку.


Слава адмарозіў ногі, і частку ступні яму ампутавалі. Цяпер ён адзін з «ляжачых» у доме Луіджы.

### «Было 20 чалавек, засталося 5»

Дом міласэрнасці адкрыўся 1 снежня 2011. За ўвесь час працы Аляксей прытуліў 97 чалавек.

Асноўныя «госці» дома міласэрнасці — бяздомныя, алкаголікі, жабракі, былыя зняволеныя. Аляксей сам знаходзіць іх у Гродна і прывозіць у Аляксандраўку, а часам яны прыязджаюць да яго самі.

«Я шукаю на вакзале, у сутарэннях. Аднак усе жабракі ўжо ведаюць пра мяне — шточацвер я прывожу ежу і раздаю яе каля Фарнага касцёла», — кажа Шчадроў.

Да нядаўняга часу ў ягоным доме міласэрнасці жыў 21 чалавек. Але пасля таго, як супраць Аляксея ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле «Незаконная арганізацыя дзейнасці грамадскага аб'яднання, рэлігійнай арганізацыі або фонду альбо ўдзел у іх дзейнасці», большасць з іх з'ехала з Аляксандраўкі.

«Яны сказалі, што калі мяне пасадзяць, ім не будзе куды ісці. Таму лепш паклапаціцца пра месца загадзя — і з'ехалі. Цяпер у доме міласэрнасці жыве толькі пяцёра. Сяргей — паралізаваны бомж. Я знайшоў яго ў сутарэнні, ён быў увесь у паразітах, зарослы. Слава — яшчэ адзін ляжачы. Ён адмарозіў ногі, і іх часткова ампутавалі. Яшчэ двое мужчынаў здолелі ўладкавацца на працу, а адзіная жанчына Ганна працуе ў гародзе і дапамагае на кухні», — пералічвае Аляксей.

### Суседзі не разумеюць

Аляксей кажа, што яму дапамагаюць многія вернікі. «Хто чым можа: адзеннем, ежай, нехта дапамагае па гаспадарцы. Вось мясцовы фермер дапамог зрабіць рамонт, перыядычна прывозіць ежу. Неяк выклікалі «хуткую». Прыехала доктарка і паглядзела, што мы робім добрую справу. Дык яна вярнулася, прывезла ежу і вопратку, дапамагала працаваць. На свеце многа добрых людзей», — расказвае ён.

Хаты дома міласэрнасці хоць і выглядаюць старымі, унутры даволі ўтульныя і чыстыя. У іх абсталяваны санвузлы з ваннамі і ўнітазам — рэдкасць для вёскі нават сёння. У Аляксея ў Аляксандраўцы свая гаспадарка, якая часткова дапамагае забяспечваць жыццё: козы, куры, свінні.

Аднак мясцовыя жыхары — стала ў Аляксандраўцы жывуць пяцёра — не ўпадабалі суседства з «дэкласаванымі элементамі». Не высокага меркавання яны і пра самога Луіджы.

«Возьме свой ружанец ды ходзіць па вёсцы, нічога не робіць. Дык уладкаваўся б на працу, што гэта за мужык такі?» — абураецца сусед Аляксандра. На пытанне, ці дапагаў ён дому міласэрнасці, мужчына адказвае, што «ў нас сваіх дзяцей хапае». «Мы яго не чапаем і ён нас не чапае», — падсумоўвае ён.

Сам Аляксей кажа, што варожага стаўлення да яго справы ні ў каго няма. «Яны проста не разумеюць тое, чым я займаюся», — упэўнены ён.

### «З Аляксандраўкі сказалі не брацы»

«У нас тут няма спакусы піць, людзі працуюць і моляцца. Такая атмасфера дапамагае ім», — расказвае Аляксей.

Паводле яго словаў, мясцовыя ўлады не дапамагаюць займацца тэрапіяй «пакінутых і абяздоленых». Нават наадварот.

«Людзей, якія жывуць тут, не бяруць на працу ў мясцовыя калгасы. Так загадала кіраўніцтва, і калі даведваюцца, што чалавек жыве ў Аляксандраўцы, яму адмаўляюць у працы. Не бяруць і ў Васілішкі, а там буйная вёска і рукі патрэбныя. Вось, напрыклад, пад Мінскам жыве фермер, які пастаянна ўладкоўвае людзей з дому міласэрнасці. І потым прыязджае да мяне і кажа, што яны вельмі добра працуюць. А ў Васілішках разварочваюць», — абураецца Аляксей.

### Няясная будучыня

«Калі б не гэтае месца, мае косткі б ужо згнілі!» — расказвае Ганна са Шчучына. Яе гісторыя банальная: як у тысячаў беларусаў, жыццё перакрэсліла алкагольная залежнасць. Цяпер яна не п'е, займаецца гаспадаркай і прыгатаваннем страваў у доме міласэрнасці.

«І мяне тут таксама не бяруць на працу, як даведаюцца, што я з Аляксандраўкі, хоць у мяне, у адрозненне ад бамжоў, ёсць шчучынская рэгістрацыя. Там пасля смерці маці мне адышла трацина хаты. Аднак я не хачу пакідаць гэты дом. Як там сказалі чыноўнікі, што ў нас няма бамжоў і бяздомных, у нас ёсць толькі маламаёмасныя. Дык вось прытулак Луіджы — гэта месца, дзе мяне паважаюць, дзе да мяне ставяцца, як да чалавека. І я гатовая на ўвесь свет крычаць, каб захавалі гэта месца», — кажа яна.

«Я размаўляў з айцом Філіпі, сакратаром нунцыя Гуджэроці. Патлумачыў яму сітуацыю. А потым яшчэ і ксёндз Аляксандр Шэмет пагутарыў з ім і нагадаў пра праблемы. Я напісаў Папу ў Рым, напісаў арганізацыі Сёстраў Маці Тэрэзы, напісаў маме (Аляксей называе «мамай» жанчыну, у якой ён жыў у Італіі — НН). Таму царква пра нашую праблему ведае і падтрымлівае нас», — расказвае Аляксей.

У Беларусі ж у Аляксея іншая вядомасць. «Па шчучынскім радыё і тэлебачанні паказалі і расказалі, што ў нас тут секта. Потым ксёндз Антоні Грэмза, намеснік гродзенскага епіскапа, сабраў журналістаў і расказаў ім, што тут не секта, тут займаюцца дапамогай людзям», — паведаміў Аляксандр. Аднак абвяржэння папярэдняй навіны пра секту так і не было.

У Аляксея шмат планаў наконт развіцця прытулку, і ён ахвотна дзеліцца імі. З ксяндзом Аляксандрам Шэметам, што праводзіў набажэнствы ў капліцы імя Маці Тэрэзы — жанчыны, якая дапамагала абяздоленым — яны абмяркоўвалі, як абкладуць хаты цэглай і блокамі, што пабудуюць пральню і арганізуюць блок карантыну для новых жыхароў прытулка.

Аднак што станецца з домам міласэрнасці ў Аляксандраўцы, вызначыць суд: крымінальны кодэкс прадугледжвае пакаранне ў выглядзе штрафу, арышту да шасці месяцаў ці пазбаўлення волі да двух гадоў.

**Кірыла Хілько, фота аўтара.**

# Калінкіна: **Магчыма, Лукашэнка разумее мае думкі**

Шэф-рэдактар «Народнай волі» Святлана Калінкіна ўзяла ўдзел у перадачы «Рупар эпохі». Відэазварыянт гутаркі можна паглядзець на сайце nn.by. Прапануем невялікую частку размовы.

**«Наша Ніва»: Вучоба на журфаку сапраўды дапамагае стаць журналістам?**

**Святлана Калінкіна:** Я не шкадую, што скончыла журфак. Але паварыўшыся ў прафесіі, лічу, што 5 гадоў вучобы на журналіста — гэта вельмі шмат. Калі ёсць любая іншая базавая адукацыя (эканамічная, гістарычная, педагагічная), то гэтага хапае для працы журналістам. З маіх аднакурснікаў нямногія засталіся ў прафесіі. Журналістыка — гэта покліч душы. Навучыць маляваць, пісаць, спяваць — нельга.

**«НН»: Вычытаў, што ў спісе самых уплывовых жанчын краіны, вы на чацвёртым месцы. Што пра гэта думаюць вашыя родныя?**

**СК:** Думаю, яны нічога такога не ведаюць *(смяецца)*. Мы дома абмяркоўваем сямейныя справы, а не грамадска-палітычныя. Толькі калі нейкія надзвычайныя сітуацыі, то нехта патэлефануе мужу ці маме, скажуць, што ў мяне праблемы, тады абмяркоўваем працу. Чаму пра мяне мала інфармацыі ў сацсетках? Ну, добрымі журналістамі становяцца тыя, каго жыццё іншых цікавіць больш, чым сваё. Калі ў доме зламаўся ліфт, то неабавязкова журналіст павінен бегчы на працу і пісаць пра гэта артыкул, ці ў сацыяльныя сеткі, прасцей выклікаць рамонтнікаў. Шчыра кажу: я не ведаю, на што я ўплываю. Усе гэтыя рэйтынгі ўмоўныя. Магчыма, думкі, якія я выказваю, падзяляе вялікая колькасць людзей.

**«НН»: Я сустракаў меркаванне, што Вы ці не адзіная журналістка, якую ўважліва чытае Лукашэнка.**

**СК:** Ад супрацоўнікаў Адміністрацыі прэзідэнта, ад ягоных спічрайтараў я чула, што Лукашэнка прыводзіць ім у прыклад некаторыя мае публікацыі. Як даступныя, простыя. Магчыма, ён разумее мае думкі. Не ведаю.

**«НН»: А кніжку «Выпадковы прэзідэнт» прачытаў?**

**СК:** Так. Бо пасля мы з ім сустракаліся. Гэта было на запісе праграмы «Свабода слова Савіка Шустэра». Пасля перадачы Аляксандр Рыгоравіч падышоў да мяне, ды выказаў незадаволенасць крытыкай ад «БДГ». У яго была прэтэнзія, чаму на вокладцы кнігі такі кепскі здымак, фоташоп. Гэта быў здымак агенцтва «Рэйтэрс», ніякага калажу там не было, але ў Лукашэнкі быў вельмі злосны выраз твару. Не ведаю, праўда, ці спадабаўся яму змест кнігі.

**«НН»: Сёння ў Вас ёсць пытанні да Лукашэнкі?**

**СК:** Мне ён сёння цікавы як асоба, што адыходзіць у гісторыю.

**«НН»: Вы раней казалі, што ён жыве ў выдуманым свеце.**

**СК:** У яго вельмі добрая інтуіцыя. Ён не можа не адчуваць, што краіна мяняецца, што мяняецца стаўленне да яго. Мне здаецца, што чалавек, які крыху асвоіў інтэрнэт (ёсць такія сведчанні), адчувае, што краіна ставіцца да яго не так, як у пачатку кіравання. Толькі апошнім часам Лукашэнка стаў разумець, што Беларусь здольная быць самастойнай краінай, можа не толькі выжываць, але і добра жыць без чыёйсьці дапамогі. Лукашэнка вельмі добры акцёр. Прачытайце інтэрв'ю Лукашэнкі ў 1994 годзе для радыё «Свабода» і прамову ў Дзяржаўнай Думе Расіі, вы здзівіцеся, наколькі процілеглыя рэчы ён казаў у адзін часавы прамежак. Але самае цікавае, што і там, і там ён казаў шчыра.



Сяргей Гудзілін

**Святлана Калінкіна**

Нарадзілася ў 1970 у Мінску. Скончыла журфак БДУ. Працавала палітычным аглядальнікам БелТА. У 1994, пасля перамогі Лукашэнкі на выбарах, перайшла на працу ў «Белорусскую деловую газету». Ад 2002 — галоўны рэдактар «БДГ». Сёння — шэф-рэдактар «Народнай волі». У сааўтарстве з Паўлам Шараметам выпусціла кнігу «Выпадковы прэзідэнты».

**«НН»: Ці цяжка заставацца жанчыне ў палітычнай журналістыцы, калі нават многія мужчыны збеглі за мяжу?**

**СК:** Мне з'ехаць з Беларусі было б не проста цяжка, а суперцяжка. Самым вялікім пакараннем для мяне было б, каб мяне прымусілі з'ехаць з Беларусі. Я часта думаю, што адчувалі тыя людзі, каго савецкая ўлада садзіла на «філасофскія цеплаходы» з білетам у адзін бок. Я люблю падарожнічаць, адпачываць за мяжой, але тут у мяне ёсць адчуванне дому, людзей, сяброў, каранёў. Я вельмі люблю Мінск. Ніколі не было думак, каб з'ехаць з краіны.

**«НН»: Хто вам бліжэй па палітычных поглядах?**

**СК:** Напэўна, Аб'яднаная грамадзянская партыя.

**Гутарыў Стась Карпаў**

# Фізік Ігар Міклашэвіч загінуў, скочыўшы ў гамак

«Загінуў з усмешкай на твары», — кажуць родныя.

Смерць Ігара Міклашэвіча была раптоўнай і недарэчнай. Ён адзначаў свой 50-гадовы юбілей на Мінскім моры, дзе будаваў дом. Сабралася людзей. Весяліліся, гулялі. Міклашэвіч скокнуў у гамак, але не разлічыў сілу. Слуп, на якім трымаўся гамак, не вытрымаў і паваліўся проста на галаву імянінніку.

Ігара Міклашэвіча ведалі многія. У пачатку 1980-х ён, карэнны мінчук, далучыўся да «Майстроўні» — нефармальнага аб'яднання. Маладыя людзі вярталі традыцыі ў паўсядзённае жыццё: беларускую мову, народныя святы.

Скульптар Гэнік Лойка сябраваў з Міклашэвічам гадоў трыццаць. «Калі ў «Майстроўні» ў асноўным былі лірыкі і мастакі, то Ігар і Сяргей Санько прадстаўлялі фізікаў. Ён прыходзіў на кожную спеўку. Яму патрэбна было беларускамоўнае асяроддзе. І калі мы вярталіся са спевак у тралейбусе, Ігар усё заклікаў спяваць беларускія песні».

Міклашэвіч паўсюль размаўляў па-беларуску. Чытаў па-беларуску лекцыі сваім студэнтам у Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце, па-беларуску друкаваўся ў часопісах. Міклашэвіч быў доктарам фізіка-матэматычных навук, прафесарам, загадчыкам лабараторыі дынамікі сістэм і механікі матэрыялаў БНТУ. «Шчыра кажучы, было нават прыемна, калі ў адным месцы, дзе мне даводзіцца працаваць, а гэта напалову ваенізаваная структура, тое, што я размаўляю па-беларуску і лекцыі чытаю па-беларуску, было адзначана як плюс і ўнесена ў план патрыятычнага выхавання курсантаў», — сказаў Ігар у адным з інтэрв'ю.

У «Майстроўні» ён пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Маргарытай Гвоздзік. Яны стварылі шчырую беларускую сям'ю. У іх нарадзіліся сын Стах і дачка Яважына. «Дачка зацятая, як і бацька. Яна з усімі па-беларуску», - Яважына мадэльерка-пачаткоўка.

Але не толькі фізіка займала час Ігара Міклашэвіча. Для душы ён пісаў літаратурныя творы пад псеўданімам Стах Дзедзіч. У кнізе «Эпілог» ён спрацыраваў законы фізікі на развіццё грамадства. Свядомым беларусам у фізічнай мадэлі ён надаў форму кандэнсаванай фазы, патэнцыял самаўзаемадзеяння якой нашмат большы за патэнцыял узаемадзеяння з вонкавым асяроддзем.



Арцём Канцавы

Сябе ён называў дзяржаўнікам. «Калі зараз спытаць у мяне, хто ты ёсць, я скажу — я дзяржаўнік. Пад дзяржавай я разумею Беларусь. Не сённяшні лад, а Беларусь. Тое, што добра для Беларусі ў стратэгічным плане, я лічу, павінна падтрымлівацца. Я абсалютна не атаесамляю Беларусь з нейкімі персонамі і ладам. Для мяне Беларусь — гэта аб'ект майго нязменнага кахання».

Пахавалі Ігара Міклашэвіча 5 ліпеня на могілках у Мінскім раёне, каля Сёмкавага Гарадка.

**Сяргей Макарэвіч**

# Усе чакаюць, што скажа Лукашэнка?


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Ці пазбавяць «Міс Мінск» кароны? **Конкурс прыгажосці** аказаўся ў эпіцэнтры скандалу.

Пры канцы чэрвеня прайшоў конкурс прыгажосці «Міс Мінск». Арганізатарамі выступілі Мінгарвыканкам, тэлеканал СТВ і Нацыянальная школа прыгажосці.

«Міс Мінск» стала 21-гадовая Яня Канцавенка. Праўда, ужо на наступны дзень інтэрнэт узарвалі «нясціпла-скандальныя» фоткі пераможцы. Прычым, узятыя яны былі з Янінай старонкі ў сацыяльных сетках. Прымушае задумацца, што можна, а што нельга выстаўляць напаказ. Таксама знайшліся здымкі Канцавенкі з клуба Dozari — Mojito Bar. На іх першая сталічная прыгажуня без станіка і ў кампаніі гарачых мужчын.

«Кожны жыве паводле сваіх уяўленняў аб правільнасці. Але! Гэтая дзяўчына стала тварам юнацкасці і пяшчоты Мінска! Што ж гэта за асоба? Раней мы хоць бы хавалі, што нашы дзяўчаты..., а цяпер вянчаем каронамі і ставім у прыклад астатнім?» — крытыкуе ў адной з сацыяльных сетак Наста Камарова, якая называе сябе знаемай Яні Канцавенкі.

Потым высветлілася, што «Міс Дружба» Кацярына Войтус, як і некаторыя іншыя ўдзельніцы, стрыптызёрка. Былі сярод удзельніц «Міс Мінск» танцоркі гоу-гоу (танцы на сталах з элементамі стрыптыза), адна — топлес-дыджэй, выступае з агаленымі грудзьмі.

Яня Канцавенка напісала, што ёй падабаецца, калі пра яе кепска кажуць. Але потым дзяўчыне ўжо было не да смеху. Спачатку «абаронца маралі» Мікалай Чаргінец назваў конкурс «правакацыяй», а пераможцу — «путанай». Потым вядучая конкурсу Ганна Бонд заклікала Канцавенку адмовіцца ад кароны. Ну і ўрэшце конкурс «Міс Мінск» так і не паказалі па тэлебачанні.

Пакуль што сітуацыя ў падвешаным стане. Напэўна, усе чакаюць, калі яе асабіста вырашыць Лукашэнка.

**Сямён Цыбульскі**

# Муж «віцэ-міс Мінск-2011» працуе ў АМАП і ловіць журналістаў

А «Міс Мінск-2007» нарадзіла сына ад **афіцэра КДБ**.



**Маліка Джумаева і Віктар Жарскі.**

А як склаўся лёс ранейшых «Міс Мінск»? Накрыклад, экзатычная прыгажуня Маліка Джумаева, уладальніца тытула другой віцэ-міс Мінск-2011 і вядучая на СТВ, летась выйшла замуж за супрацоўніка АМАП Віктара Жарскага. Ён быў сведкам у судзе над журналістамі Ярашэвічам і Галко.

Увечары 6 мая журналісты вярталіся з Акрэсціна, дзе сустракалі арыштантаў «Чарнобыльскага шляху». Каля метро да іх пад’ехаў спецназаўскі мікрааўтобус. Хлопцаў затрымалі і адвезлі ў РУУС, дзе яны і правялі ноч. На наступны дзень Віктар Жарскі з калегамі Новікам і Гарошкам сведчылі ў судзе, што журналісты нецэнзурна лаяліся і супраціўляліся праваахоўнікам.

Апроч гэтага, Віктар Жарскі — адзін з тых, хто затрымліваў журналістак «Нашай Нівы» пасля «Чарнобыльскага шляху» ў красавіку.

Абраннікам іншай сталічнай красуні, «Міс Мінск-2007» Васілісы Рымжы, стаў афіцэр КДБ Юрый. У інтэрв’ю «Камсамольскай праўдзе» яна прызналася, што муж займаецца «важнымі дзяржаўнымі пытаннямі». А яе сэрца заваяваў тым, што проста быў самім сабой: ніколі не павысіў голас, не падмануў, не лаяўся матам: «Мы з Юрам абмяркоўваем творы мастацтва, кіно, прыгажосць прыроды, ходзім і на бокс».

**Аксана Рудовіч**


**Камертон Сяргея Ваганава**

# Парадны разлік

Кожны раз, калі баба Гіта, адстаяўшы чэргі, прыносіла ў хату ці нешта занадта дарагое, ці ўвогуле не патрэбнае, на ўсе матчыны папрокі «навошта?» яна адказвала вычарпальна: «Усе палкоўнікі і генералы бяруць!»...

Палкоўнік Макараў, зразумела, не баба Гіта. Але кожны год, калі набліжаецца 3 Ліпеня, галоўны прапагандыст, «сцяганосец», так бы мовіць, ад Міністэрства абароны намагаецца пераканаць грамадства ў тым, як патрэбен яму, грамадству, парад. На ўсе пытанні адносна цаны «тавару» і на сумневы адносна гістарычнай нагоды ён адказвае не горш за бабу Гіту: якія грошы ў параўнанні з высокім маральным духам, патрыятычным уздымам і свяшчэннай памяццю?!

Насамрэч, грошы турбуюць палкоўніка Макарава не менш за «патрыятычны ўздым» і «свяшчэнную памяць».

У маім архіве захаваліся дакументы да гісторыі, якая цягнулася больш за 7 гадоў. Аднойчы мінчук Пятро Папоў, прачытаўшы віншаванне ад прэзідэнта да 60-годдзя Пабеды і пачуўшы прэзідэнцкія словы пра тое, што «кожнаму ўдзельніку вайны трэба аказаць асаблівую ўвагу і выканаць іх жаданне», захацеў атрымаць у падарунак ад прэзідэнта шуйскі гармонік.

«Я з дзяцінства, — пісаў Папоў у «Народную волю», — граў на гармоніку і ўсё жыццё марыў пра шуйскую гармонь. Гармонь была нам адзінай радасцю. Як яна ўздымала дух у тыле і на фронце! Дзе гармонь іграла, там гора і слёзы забываліся. Калі вярнуўся з вайны, ужо ні родных, ні хаты не было. Не да гармоні... Галеча, жыць няма дзе... Ну, а потым Мінск, будоўля, праца на аўтазаводзе, вучоба, сям’я... А што па капейчыне назапасіў у ашчаднай касе, прапала... Вось і не вытрымаў, вырашыў (магчыма, і недарэчна), напісаць Аляксандру Рыгоравічу... Мо і яму аўтарытэт...»

Сем гадоў выпрабоўваў ветэран вайны аўтарытэт дзяржаўнай улады, «усіх палкоўнікаў і генералаў»: ад Адміністрацыі прэзідэнта праз дырэкцыю аўтазавода, якому аддаў усё працоўнае жыццё, да палаты прадстаўнікоў, Савета ветэранаў і Міністэрства абароны.

Генералу Новікаву, старшыні Савета ветэранаў, Папоў пісаў ужо ў стане роспачы: «...4 гады мне даказвалі, што я не толькі капейкі —

## Захацеў ветэран атрымаць у падарунак ад прэзідэнта шуйскі гармонік

слова не варты... Таварыш Генерал, спадзяюся, Вы не падвядзеце гвардзейца...»

Генерал Новікаў «не падвёў». Адказаў, што Савет ветэранаў «...не имеет полномочий...» і «искренне» павіншаваў з Днём Перамогі — адказ пісаўся 8 мая. Праўда, усё ж папрасіў Міністэрства абароны знайсці «финансовую возможность...»

«Фінансавую магчымасць» шукаў палкоўнік Макараў. І адшукаў, што «...военное ведомство не имеет возможности...»

Магчымасць знайшлі чытачы газеты, скінуліся на падарунак. І сярод іх, напэўна, нашчадкі тых, хто ад пачатку вайны так і не запатрабаваў свае ўклады ў былую дзяржаву, бо загінуў альбо згінуў без вестак. Больш за два з паловай мільёна гэтых грашовых укладаў дасюль захоўваюцца ў Цэнтрабанку Расіі...

Такі вось парад.

Такі «маральны дух». Такі «патрыятычны ўздым». Такая «свяшчэнная памяць»...

Не ведаю, што там на памяці ва «усіх палкоўнікаў і генералаў». На маёй памяці Ён.

...Ён быў, як тое завецца, знакавай фігурай майго дзяцінства. Пачынаючы гадоў з пяці, калі я ўпершыню ўбачыў яго. Дакладней, пачуў, як грукочуць па крутым брукаваным спуску вуліцы Берсана падшыпнікі ягонага самаката. А потым убачыў, як ён тармозіць рукамі ля газавай крамы, куды я пайшоў разам з маці. Яна кінулася да яго дапамагчы, ён закруціў галавой і нават замахнуўся на яе. А я не разумеў, як гэта магчыма рухацца на карачках, адштурхоўваючыся ад маставой нейкімі дзеравяшкамі. Пазней даведаўся, што яны так і зваліся — штурхачы.

Потым я сустракаў яго ледзь не кожны дзень, калі ішоў у школу па вуліцы Нямізе, уздоўж яшчэ не загнанай у трубы Нямігі-ракі. Я трохі палохаўся яго, ягоных аблямаваных тлустай, зацёртай да люстэркавага бляску, скурай абрубкаў ног, ягонай грузнай фігуры, што невядома як змяшчалася на дошачках з падшыпнікамі.

Зімой ён апранаўся ў стары, заўсёды расшпілены бушлат — яму, відаць, заўжды было горача ад цяжару ягонай, можна сказаць, *падзвіжніцкай* працы. З-пад бушлата цьмяна пабліскваў медаль. Я разгледзеў гэты медаль аднойчы летам, ужо пад штрыфлем пінжака, адзетага проста на цяльняшку — «За отвагу», такая ж была ў бацькі...

А потым ён са сваім медалём знік. З горада. З жыцця. Але, як бачыце, не з памяці...

Не, я не супраць парада, калі б наперадзе замест танкаў каціў, грукочучы падшыпнікамі, Ён. А за ім — Папоў з гармонікам. А за імі — усе знішчаныя і пакалечаныя вайной беларускія людзі...

І «ўсе палкоўнікі і генералы» аддавалі б ім чэсць.

Але я добра разумею, на што і на каго разлічаны іх парадны, пад грукат браніраваных страшыдлаў, рытуальны енк пра загінулых і ваяўнічую рыторыку пра «нашу победу», разлік — на пацеху адным, што вечна прагнуць відовішчаў, і на патрэбу іншым, што прагнуць вечнай улады над людзьмі.

# **Анатоль Івашчанка:** Вершы пішуцца, калі табе хранова

Паэт Анатоль Івашчанка пра **творчасць і сям'ю**.



Траіх дзяцей выхоўваць лягчэй, чым аднаго

**Анатоль Івашчанка**

паэт, літаратуразнаўца. Нарадзіўся ў 1981 у Мінску. Скончыў філфак БДУ, абараніў дысертацыю па паэтыцы Алеся Разанава. Выкладаў беларускую мову ў БНТУ. Адказны сакратар часопіса «Дзеяслоў». Аўтар кніг вершаў «Вершпіск» і «Хай так». Бацька траіх дзяцей.

НАСТА ХРАПОВІЧ

### Мае бацькі — тэхнічная інтэлігенцыя

Выхоўвалі мяне звычайна. Бацькі з майго дзяцінства былі кандыдатамі навук тата — тэхнічных, а матуля — хімічных. Выпісвалі «Новый мір», падшыўкі якога захоўваюцца да сёння і якія ў пэўны момант аказалі на мяне моцны ўплыў. Празмернае свабоды не давалася, але і крылаў ніхто не падразаў. Мой выбар шляху гуманітарыя, а не тэхнара, прынялі з разуменнем. Ды і цяпер вельмі спрыяюць і падтрымліваюць ва ўсім. Маё гарадское дзяцінства — гэта вуліца Карламарла, гаражныя дахі і гарышчы, стадыён «Дынама», будаўніцтвам якога пасля вайны, дарэчы, кіраваў мой прадзед Аляксей. У 14—16 гадоў увесь вольны час займаў музычны гурт (наш рэпертуар, акрамя ўласных опусаў, складалі «Бітлз», «Машына часу», «Чайф», «Кіно»), дзе я граў на сола-гітары і спяваў.

### У нецвярозым стане пісаць не спрабаваў

Звычайна вершы пішуцца, калі табе хранова. І з гэтым нічога не зробіш. Калі мне добра, у мяне вершы не пішуцца. Ёсць добрая фраза са старога фільму: блюз гэта калі добраму чалавеку кепска. Так і з вершамі. У нецвярозым стане пісаць не спрабаваў.

### Не склалася з прозай

У мяне не склалася з прозай, бо няма на гэта часу. Верш спакуслівы тым, што яго можна зрабіць за кароткі час. Скажаце, што можна пісаць абразкі нейкія, што я, дарэчы, зрэдзьчасу і раблю, але для мяне празаік — гэта той, хто стварыў тэкст буйной формы. Можа, і ўсядуся пісаць аповесць, каб зразумець, ці празаік я. Ці не слабо.

### Узровень ведання беларускай мовы катастрафічны

За 6 гадоў выкладання мовы ў БНТУ ў мяне было каля 10 студэнтаў, якія прынцыпова і ўвесь час размаўлялі па-беларуску. Не ведаю, шмат гэта ці не. Ужо год, як я не выкладаю. І сышоў адтуль не таму, што там нейкі кепскі калектыў. Проста крыўдна, што ты ўсе сілы свае ўкладаеш у працу, а ўсім пофіг. Узровень ведання беларускай мовы катастрафічны, і з кожным годам ён становіцца яшчэ горшым. Між тым, цікавасць да беларушчыны і, наважуся сцвярджаць, павага да яе ў моладзі ёсць. Ніколі я не абмяжоўваў сябе ў тым, што казаў, і ніколі ніхто не запярэчыў ні па тым, калі насамрэч мы мусім адзначаць Дзень незалежнасці, ні па тым, які сцяг і герб насамрэч маюць для нас гістарычную вартасць... Я лічу, яшчэ не ўсё страчана. Пры належным падыходзе, нават такую катастрафічную сітуацыю можна пераламіць.

### Сям'я не прыглушае творчыя памкненні

Я ўдзячны лёсу, што ў мяне трое дзяцей. Сям'я ніяк не перашкаджае творчасці. Магчыма, карэктуецца тэматыка. Нараджэнне дзіцяці не пройдзе без адлюстравання ў творах. Сям'я моцна арганізоўвае. Не было б 6 яе, марнаваў бы час на пошукі жонкі. (*Пасміхаецца.*)

### Для мяне вельмі істотна меркаванне матулі

Мы з жонкай разам 8 гадоў. Ажаніліся даволі хутка, прыкладна праз год пасля пачатку блізкіх стасункаў. Пазнаёміліся ў будатрадзе. Знаходзіўся ён на беразе Чорнага мора. Але гэта не «курортны раман», і пасля мы яшчэ даволі шмат часу існавалі аўтаномна. Аднойчы мы апынуліся ў кватэры Усевалада Сцебуракі і ўсю ноч правялі за душэўнай размовай, тады ўсё і стала зразумелым. Для мяне вельмі істотна меркаванне маёй матулі. Ёй вельмі спадабалася мая будучая жонка.

### Дзеці розныя

Першы дзіцёнак з'явіўся неўзабаве. Яна ў нас, праўда, неданошаная дзесьці месяц. Дачка. І першы месяц жыцця яна практычна праспала. Якраз той час, які не даседзела ва ўлонні. У нас трое дзетак: Яна, Данік і Наста. Зараз старэйшай сем гадоў, малодшай тры з паловай. Дзеці ў нас усе розныя. Для кагосьці хапае толькі суворага погляду, а камусьці трэба часам і па задніцы даць. Траіх значна прасцей выхоўваць, чым аднаго. Бо адзін мае рызыку вырасці эгаістам, а трое — гэта самаарганізаваная сістэма, такое сабе таварыства, у якім ты вучышся і чуць іншага, і лічыцца з яго інтарэсамі, і падаўляць сваю гардыню. Гэта пастаянная ролевая гульня, з якой трэба намагацца атрымаць найболей карысці. Выхаванне, пры асэнсаваным падыходзе, — страшэнна захапляльны працэс.

### Да 6 гадоў на дзяцей нельга павышаць голас

Перад тым, як пачынаць дзіцёнка выхоўваць, трэба прачытаць хоць пару-тройку кніг па дзіцячай псіхалогіі. Я згодны з тым, што гадоў да шасці на дзіцёнка нельга павышаць голас (хаця сам не магу ў гэтым сэнсе быць эталонам). Ты павінен даць чалавеку цалкам раскрыцца. І пасля зразумець, з чым маеш справу і дзесьці карэктаваць. Трэцяга ўжо выхоўваеш па-іншаму, усё ж такі ўжо досвед ёсць. Я лічу, што вельмі шмат чаго закладзена ад нараджэння, і будзь ты хоць Макаранкам — не выправіш чалавека пад свой капыл. Галоўнае ў выхаванні — не нашкодзіць.

### Дзіця павінна разумець каштоўнасць уласных поглядаў

Чаму ў адукаваных і інтэлігентных людзей часам дзеці вырастаюць, робяцца наркаманамі? Гэта не таму, што дрэнна выхоўвалі, а таму, што зламалі стрыжань. Дзіця павінна разумець каштоўнасць уласных поглядаў — тады ў пэўны момант яно знойдзе сілы адмовіцца ад сумнеўнай прапановы. Трэба паказаць, што дзеці могуць у любых выпадках звярнуцца да бацькоў. Бо бацькі — гэта самыя блізкія сябры.

### Спіс кнігаў, абавязковых для прачытання, трымаю ў галаве

Натуральна, нашы дзеці слухаюць тую музыку, якую любім мы. Маёй малодшай так спадабалася выпадкова пачутая «Арыя», што просіць яе заўсёды ставіць. У нашых дзяцей хіт нумар адзін — песні з кружэлкі «Малы і мядзведзік» Вісландэраў у перакладзе Хадановіча і выдатным выкананні Вайцюшкевіча і Казіміроўскай, хіт нумар два — другая «Перазагрузка» ад «Будзьмы», і падчас доўгае дарогі мы змушаны слухаць яе па 15 разоў запар. Вы можаце шпігаваць іх чым заўгодна: Моцартам, рэпам ці рокам — не факт, што яны пачнуць гэта любіць. Хаця скарэктоўваць, безумоўна, варта. Прынамсі, спіс кнігаў, абавязковых для прачытання, я ў галаве трымаю і, спадзяюся, калі-небудзь прапаную яго сваім дзецям...

### Пытанне мовы ў нас вельмі балючае

Пытанне мовы ў нас вельмі балючае. Працэнтаў на 70 мы размаўляем з імі на рускай мове. З першым дзіцёнкам гэты адсотак быў значна меншы. Але беларускасць у нас прысутнічае ў вельмі вялікай ступені. Праблема ў тым, што ў нас няма знаёмых беларускамоўных дзяцей. Мяне могуць папракнуць, але на цяперашнім этапе для нас галоўнае не столькі мова выхавання, колькі зручнасць. Вядома ж, я вельмі хачу, каб дзеці атрымалі беларускамоўную адукацыю, але пакуль тэхнічна, у тым ліку і праз клятае кватэрнае пытанне, гэтага не ўдаецца. Для нашых дзяцей беларуская мова — гэта мова таты і яго сяброў, мова дарослых, кніг і казак.

### Я забабоністы чалавек

Я даволі забабоністы чалавек. Веру ў магію лічбаў і магію слова, нейкія супадзенні, вербальныя знакі. Напрыклад, я ажаніўся 7 траўня 2005 года (2005 у суме дае 7-ку), дачка нарадзілася 7 лістапада, сам я нарадзіўся 7 жніўня, бацька, наадварот, — 7 лютага... У маім жыцці вельмі шмат сямёрак, і яны для мяне шчаслівыя.

**Вольга Гарапучык**

---

Анатоль Івашчанка

**Адрынуты (-я)**

*Паўлу Севярынцу*

Адрынутыя —
ты,
я,
мы.
На вуснах патрэсканых
прысмак зімы.
На вуснах скрываўленых
прысак вайны.
У лоб дубальтоўку наставіла восень.
Бы выспы воспы
на целе радзімы, —
«хіміі», зоны, астрогі.
Гуглі не гуглі —
не знойдзеш дарогі
да пункта з назовам Куплін.
Халодныя вочы,
няўтульныя зімы.
Пачварныя плямы
на целе радзімы
няўтульныя вочы,
халодныя зімы.

Плямы — мы.
Нас тысячы.
Ты сячы,
а мо й мільёны.
Ззяюць знічы
сярод гэтай ночы.
Цэлы народ замкнёны.

Колькі такіх,
каго без віны,
ушчэнт, падыспад,
у тыя віры?...
Ці маецца дно
у глыбіні?

«Хімік» —
гэта ж ад «схімніка»?

З узбочыны скрушна
тарашчыцца крушня.
Вось сімвал сцюдзёнага выраю.
Заўважна слушна.
God, where are You?

Яны адграбуць, Паша, помні
па поўнай.
хоць тое і не наш,
хрысціянскі, метад.
Але ж адграбуць, Паша,
ведай.

# Купалле ў Алеся Пушкіна скончылася трагедыяй

Для гасцей гатавалі **крупнік**, адбыўся выбух.



Журналісты «НН» здымалі на відэа Купалле ў Бабры. У кадр трапіў і момант выбуху.



Мастак Алесь Пушкін жыве ў Бабры (Крупскі раён), штогод сустракае Купалле з размахам. Да яго з'язджаюцца людзі з усёй Беларусі. Сёлета гасцей было каля двухсот чалавек. Ужо традыцыйным стала прыгатаванне старажытнага алкагольнага напою са спірту, мёду і спецыяў — крупніку. Не блытаць з супам, які таксама завецца крупнікам.

На вялікую колькасць гасцей мастак вырашыў згатаваць цэлы кацёл трунку. І парушыў правілы бяспекі: ліў спірт проста ў бітон, што стаяў на агні. Ён і спалахнуў.

«Я зрабіў памылку. Замест таго, каб аднесці бітон і даліць спірт ля хаты, паднёс гэту бутлю да вогнішча. Я забыўся, што бензін і спірт каля агню разліваць нельга», — прызнаў Пушкін карэспандэнту «Нашай Нівы».

У выніку тыя, хто стаяў побач, ўспыхнулі як запалкі. Нехта паваліўся з абрыву, на якім і гатавалі крупнік. Хто не пацярпеў, адразу кінуўся ратаваць іншых. У бальніцу ў Крупкі забралі пяцёх. Двух хлопцаў адпусцілі пасля аказання медычнай дапамогі. Тры дзяўчыны і сёння застаюцца ў шпіталі.

14-гадовая Ганна і 22-гадовая Паліна трапілі ў рэанімацыю. Іх стан цяжкі. Яны атрымалі апёкі 1—3 ступеняў. У Ганны — апёкі траціны цела, у Паліны крыху менш. У хірургічным аддзяленні знаходзіцца і маці меншай дзяўчыны Вольга.

Алесь Пушкін прызнае адказнасць за здарэнне. І гатовы панесці выдаткі за лячэнне. «Лічу, так я пакараны за тое, што паддаўся вось гэтаму эмацыйнаму, акцёрскаму парыву. Пра містыку, прыгажосць, дух беларускі трэба дбаць, але ніколі не забывацца на правілы бяспекі на масавых мерапрыемствах».

Пакуль мастак наведвае царкву і моліцца за здароўе дзяўчатак, яго справай займаюцца следчыя. Яны правялі ў Пушкіных вобшук, апытвалі ўдзельнікаў свята.

Гаспадар для сябе зрабіў адпаведныя высновы. «Гэта свята павінна быць не такім масавым, а ўсё-такі больш спакойным, свядомым. Бо як толькі яно становіцца масавым, то ўзнікае патрэба ў МНС, «хуткай дапамозе», міліцыі. Лічу, іх прысутнасці справядліва патрабуюць на такіх мерапрыемствах. Цяпер я пераканаўся ў гэтым на ўласным досведзе. І крупнік ужо будзе рыхтавацца ў іншых колькасцях».

**Ірына Арахоўская, Кастусь Матушыч**

**Вышук**



Па падазрэнні ў крадзяжы расшукваецца **Аўтуховіч Дзяніс Міхайлавіч**, 1991 года нараджэння. Ён пражываў у в. Прусіна Касцюковіцкага раёна. Знаходзіўся пад падпіскай аб нявыездзе і належных паводзінах, калі пакінуў вёску. Хто валодае інфармацыяй пра падазраванага, тэлефануйце ў Касцюковіцкі РАУС: (02245) 5-49-44, (044) 703-63-00.



**Слонімская Таццяна Іванаўна**, 1962 года нараджэння, знікла 3 ліпеня. Каля 13.30 на сваім аўтамабілі «Мазда 3» сіняга колеру, дзяржнумар 6733 КХ-7 (на вечку бензабака сіняя кветка ў выглядзе рамонка) выехала ад дома ў пасёлку Стайкі, Мінскі р-н у ягады і знікла. Прыкметы жанчыны: рост 160 см, валасы цёмна-русыя. Тэлефон: (033) 666-68-56.



Кастрычніцкім РАУС Гродна расшукваецца **Міхайлаў Павел Яўгенавіч**, 1985 года нараджэння. 17 ліпеня 2012 ён пайшоў з дому і не вярнуўся. Прыкметы: рост 160-165 см, хударлявага целаскладу, валасы русыя сярэдняй даўжыні. Хто ведае, дзе Міхайлаў, тэлефануйце: (0152) 79-78-05.

## Згарэў культавы музычны хутар Шаблі

Але **канцэрты праводзяцца** без зменаў.

«Згарэў дом — дзевяць гадоў жыцця, — кажа ўладальнік хутара ў в. Малое Запруддзе Уладзімір Шаблінскі. — Хутар не згарэў, бо гэта супольнасць людзей і інфраструктура. А дом выкарыстоўваўся для адпачынку людзей, задзейнічаных на канцэртах. Цяпер будзем адпачываць у іншым будынку. І фестываль «Вольнае паветра» ў жніўні пройдзе — зменаў няма».

Пажар здарыўся ноччу на 2 ліпеня. Хутар Шаблі — сядзіба ў Валожынскім раёне, якую стварыў прадзюсар Уладзімір Шаблінскі. Тут праводзяцца музычныя канцэрты, на якія з'язджаюцца сотні людзей у пошуках цёплай атмасферы. Гэта адно з нешматлікіх месцаў, дзе праводзяцца канцэрты пад адкрытым небам.

Пажар заўважылі суседзі Шаблінскага. Яны і выклікалі пажарных. На шчасце, у доме ў той час нікога не было.

«Гэта фатальны збег абставінаў. На мансардзе вяліся рамонтныя работы. І не прадугледжвалася ў гэты час выкарыстанне каміна. А ў доме адпачывалі мае сябры. Яны пра работы не ведалі. Запалілі ў каміне і пайшлі гуляць. Відаць, нейкае будучае смецце загарэлася», — са скрухай кажа Шаблінскі.

«Гэта абыйдзецца ў пабудову новага дома. Спадзяюся, не за дзевяць гадоў», — так гаспадар ацаніў страты.

**СМ**

**На аднаўленне дома можна пералічыць грошы**

Для гэтага адкрыты дабрачынны рахунак.

Беларускія рублі. Філіял 500, Мінскае ўпраўленне ААТ «АББ «Беларусбанк», г. Валожын, УНП 100603596, МФА 153001601, транзітны рахунак № 3819382123319 на дабрачынны рахунак №000008 у аддзяленні №500 МУ. Прызначэнне плацяжа: 9004, на імя Шаблінскага Уладзіміра Барысавіча на ўднаўленне разбуранага пажарам жылога дома ў в. Запруддзе (дарэнне). Важна ўказаць менавіта такое прызначэнне плацяжа.

Для юрыдычных асобаў просьба высылаць інфармацыю пра ахвяраванне і копію квітанцыі на anna.trubachova@mail.ru, каб вам пераслалі ўзор дамовы на аказанне дабрачыннай дапамогі. Дадатковая інфармацыя па нумары (029) 688-61-74.

## Забіў каханую ўдарам у твар

Праз смерць студэнткі **ва ўніверсітэце адмянілі ўрачыстасці** для выпускнікоў.

«Ведала яе сямнаццаць гадоў. Як кажуць, разам у лялькі гулялі. Гэта быў вясёлы і жыццярадасны чалавек. Шкада, што нейкі вылюдак можа вырашаць чужыя лёсы, — не стрымлівае эмоцый сяброўка забітай Аня. — Лілія была адзіным дзіцём у сям'і».

23-гадовая Лілія знікла 24 чэрвеня. Увечары выйшла з дому і не вярнулася. Дзяўчыну знайшлі забітай на наступныя суткі ў лесе пад Рэчыцай. А праз дзень у Мазыры затрымалі і падазраванага. Гэта аднакурснік Лілії, з якім яна некалі сустракалася. Але затым адносіны не склаліся. Цяпер хлопец хацеў «адматаць» усё назад.

У панядзелак увечары Лілія вярталася са спаткання. Абяцала патэлефанаваць свайму маладому чалавеку, калі вернецца. Але каля пад'езда яе чакаў былы бойфрэнд, грамадзянін Расіі з відам на жыхарства ў нашай краіне. Ён прыехаў на машыне, якую ўзяў у сябра, прапанаваў пагаварыць. Ад'ехалі да вёскі Ваўчыная Гара. Толькі размовы не выйшла: дзяўчына адмовілася зноў сустракацца.

Хлопец схапіў нож і ўдарыў каханую па твары. А калі зразумеў, што дзяўчына памерла, схаваў у лесе, прысыпаўшы лісцем.

Сябры пачалі шукаць Лілю. З'явіліся абвесткі ў сацыяльных сетках. Ранкам 26 чэрвеня падазраваны перастaвіў абвестку аб пошуку дзяўчыны на сваёй старонцы «Укантакце». А ўдзень яго затрымалі.

Цяпер ён знаходзіцца ў ізалятары. Прызнаў сваю віну.

Ліля вучылася ў Мазырскім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Шамякіна. Спецыяльнасць — біялогія і ахова прыроды.

«У суботу, пасля яе смерці, мы павінны былі атрымліваць дыпломы. Ліля паспяхова здала ўсе дзяржэкзамены... У сувязі з жалобай урачыстасці адмянілі», — расказала сяброўка Лілі Таццяна.

Сябры забітай не хочуць гаварыць пра затрыманага хлопца. Кажуць толькі, што вучыўся ён не ў адной групе з Ліліяй. Але таксама рыхтаваўся атрымаць днямі дыплом.

**Сяргей Макарэвіч**



НАСТАССЯ ХАРЛОВІЧ

**«Трымаюся з апошніх сілаў, бо хачу дачакацца справядлівага прысуду», — заявіў Саша Варламаў у апошнім слове на судзе. 23 ліпеня будзе абвешчаны прысуд па яго справе. Пракурор просіць пакараць мадэльера 5 гадамі калоніі з канфіскацыяй маёмасці і забаронай займаць кіроўныя пасады. Варламаў прызнаў сваю віну ў няслпаце падаткаў, але адмаўляе махлярства і крадзяжы. Ён знаходзіцца за кратамі ад мая 2011.**

# Сапраўдныя Беларусы, якія мы? Сацыялагічны партрэт

**Хто гэтыя дзясяткі тысяч чалавек, якія чытаюць «Нашу Ніву»?**

Хто гэтыя людзі, якія маюць патрэбу штодзень ці хоць штотыдзень чытаць па-беларуску — людзі, якіх можна з поўным правам назваць Сапраўднымі Беларусамі? Раней мы мелі толькі ўрыўкавыя звесткі сацыёлагаў. Цяпер ёсць яшчэ цікавая інтэрнэт-статыстыка. І вынікі апытанняў чытачоў на сайце.

### Мінск — беларускі горад

Паводле даследаванняў лабараторыі «Новак» і звестак Audience.by, «Нашу Ніву» на паперы або ў нэце рэгулярна або час ад часу чытаюць 2,8% насельніцтва Беларусі. У Мінску, Баранавічах, Гродне, Жодзіне, Маладзечне і Мінскім раёне гэты працэнт найвышэйшы. Асабліва шмат чытачоў дае Мінск: тут «Нашу Ніву» на сайце ці на паперы чытаюць больш за 5% жыхароў. Вялізная доля!

Агулам, у паўночна-заходняй Беларусі «НН» чытаюць больш, чым у паўднёва-ўсходняй. Аднак розніца не такая і вялікая. На сёння яна ўжо не ў разы, але ўсё яшчэ на дзясяткі працэнтаў.

І Магілёў, і Гомель даюць нямала чытачоў таксама.

### Радзіма ў сэрцы

Што прыемна, беларусы трымаюць сувязь з айчынай праз «Нашу Ніву» і з-за мяжы. Традыцыйна, каля 15% наведнікаў сайта чытаюць нас з-за мяжы, а ўлетку гэты працэнт нават вышэйшы.

Доля людзей, якія чытаюць «Нашу Ніву» на паперы, на жаль, ад канца 2011, падае. Кажу на жаль, бо інтэрнаўты пакуль не выпрацавалі звычкі штомесяц ці штоквартал рабіць ахвяраванне на выхад газеты. Яны не «купляюць» сайт, і, калі такая звычка не выпрацуецца, гэта паставіць пад пагрозу выжыванне газеты і сайта.

### Добрая адукацыя, нармальныя даходы

Паводле звестак Gemius.pl і Audience.by, каля 50% чытачоў сайта НН маюць вышэйшую адукацыю, яшчэ 20% вучыцца ў ВНУ. Такім чынам, НН мае вельмі адукаваную, а значыць — якасную і ўплывовую аўдыторыю.

Мужчыны складаюць каля 60% чытачоў сайта, жанчыны — 40%.

Сярэдні даход на чалавека ў сем'ях чытачоў НН складае ад 250 да 400 даляраў за месяц. Але ёсць 13% чытачоў з даходамі, большымі за 600 даляраў у месяц на чалавека, і 4% з даходамі, меншымі за 60 даляраў на месяц на асобу. Гэта значыць, і заможныя, і бедныя.

### І старыя, і малыя

Сайт мае вялікую долю чытачоў 19—24 гадоў, доля нашых чытачоў таксама сярэдняя для Белнэту ў катэгорыі ад 35 да 45 гадоў і вышэйшая за сярэднюю ў катэгорыі ад 45 гадоў і старэйшых.

Такім чынам, «Нашу Ніву» чытаюць людзі розных пакаленняў, гэта ўсепакаленчая, сапраўды агульнанацыянальная газета.

З чытачоў сайта большасць чытае яго штодзённа (87%).

Па-беларуску маюць патрэбу чытаць і расейскамоўныя. Толькі 31% чытачоў НН вучыўся на беларускай мове, 69% — па-расейску.

Вось такая карціна вымалёўваецца з сацыялогіі і інтэрнэт-даследаванняў. А вось пра светапогляд нашаніўскага чытача — а паколькі «Наша Ніва» на сёння самы папулярны рэсурс на беларускай мове — то і ўвогуле пра погляды Сапраўдных Беларусаў яскрава сведчаць апытанкі на сайце НН. На іх адказваюць самыя актыўныя чытачы, але, як паказвае досвед, гэты зрэз вельмі характэрны.

Дык вось, з апытанак вынікае, што па-беларуску чытаюць людзі самых розных поглядаў і перакананняў. Якія погляды нашага чытача па гарачых сацыяльных пытаннях? Вось яны.

### Здаровы кансерватызм

Большасць чытачоў «Нашай Нівы» верыць, што здаровую аснову грамадству закладаюць прыватная ўласнасць і свабода. 60% чытачоў «НН» не лічаць, што заходняя цывілізацыя перажывае крызіс. 40% мяркуюць, што так, крызіс ёсць, патрэбны перамены.

Большасць чытачоў «НН» устрывожаныя п'янствам, ростам колькасці разводаў, выпадкамі наркаманіі. Людзі неабыякавыя да фактаў карупцыі, безгаспадарчасці, забруджвання прыроды, распусты. Людзі лічаць гэтыя праявы масавымі і чакаюць ад газеты пільнасці.

60% чытачоў «НН» мяркуюць, што пікантныя фоты Міс Мінск трэ' было публікаваць, і толькі 13% думаюць, што не.

Чытачоў «НН» непакоіць наплыў расійскага капіталу, расійскіх турыстаў. І аднязначна людзі выступаюць супраць расійскай вайсковай прысутнасці на тэрыторыі Беларусі. Толькі 8% падтрымліваюць аб'яднанне МАЗа і КамАЗа ў холдынг, 71% — супраць такога зліцця.

У пытаннях сям'і і шлюбу чытач «НН» стаіць на памяркоўна-кансерватыўных пазіцыях. 55% чытачоў выступаюць супраць аднаполых шлюбаў і толькі 35% за. Прычым з тых 35-ці большасць выступае за тое, каб гэта былі шлюбы толькі з маёмаснымі правамі, але без права ўсынаўляць дзяцей.

Чытачы «НН» чакаюць узмацнення праціхістаяння хрысціянскага і мусульманскага свету і маюць намер трымацца хрысціянскіх каштоўнасцяў.




Чытач даслаў такі здымак з курорта на выспе Тэнэрыфе.

**Як па-Вашаму, дзе карані беларускай дзяржаўнасці?**

| | | |
|---|---|---|
| У Полацкім княстве | 925 | 33% |
| У Вялікім Княстве Літоўскім | 1417 | 50% |
| У Беларускай Народнай Рэспубліцы | 336 | 12% |
| У БССР | 72 | 3% |
| У саюзе Беларусі і Расіі | 54 | 2% |

**Як Вы будзеце адпачываць гэтым летам?**

| | | |
|---|---|---|
| Паеду ў родавую вёску | 142 | 12% |
| Буду на дачы | 93 | 8% |
| Паеду на мора за мяжу | 215 | 19% |
| Паеду за мяжу, але не на мора | 144 | 12% |
| Пайду ў паход | 68 | 6% |
| Адпачынак будзе актыўны (раскопкі, будоўля, помач сваякам...) | 96 | 8% |
| Буду працаваць | 401 | 35% |

**На чым, па-Вашаму, заснавана беларускае грамадства?**

| | | |
|---|---|---|
| На любові | 51 | 2% |
| На павазе | 9 | 1% |
| На сіле і страху | 392 | 16% |
| На грошах | 70 | 3% |
| На веры | 40 | 2% |
| Ні на чым. Яно існуе па інерцыі | 990 | 41% |
| Ёсць два грамадствы: адно лукашэнкаўскае, а другое незалежнае. І яны як неба і зямля | 861 | 35% |

**Як па-Вашаму, ці добра быць высокім чыноўнікам у Беларусі?**

| | | |
|---|---|---|
| Добра | 83 | 10% |
| Цяжка | 94 | 12% |
| Добра, але сорамна | 357 | 45% |
| У нас высокі толькі адзін | 260 | 33% |

**Калі Вы першы раз займаліся сэксам?**

| | | |
|---|---|---|
| Раней за 18 гадоў | 724 | 24% |
| У 18-20 гадоў | 940 | 31% |
| У 21-22 гады | 515 | 17% |
| Пасля 23 гадоў | 453 | 15% |
| Я не ведаю, пра што вы пытаеце | 421 | 13% |

**Які Ваш улюбёны водар?**

| | | |
|---|---|---|
| Квецені садоў | 174 | 18% |
| Бэзу | 230 | 24% |
| Язміну | 140 | 15% |
| Шыпшыны | 26 | 3% |
| Ліпавага цвету | 123 | 13% |
| Чабору | 135 | 14% |
| Верасоў | 20 | 2% |
| Грошы не пахнуць | 113 | 13% |

Вялікая доля чытачоў трымаецца сваёй сям'і, роду, не рве сувязі з родавымі мясцінамі. Многія праводзяць там частку летняга адпачынку, дапамагаюць вясковым сваякам садзіць бульбу, робяць уласныя дачы.

### З Лукашэнкам не сцярпеліся

Чытач «Нашай Нівы» выступае супраць Аляксандра Лукашэнкі і ягонай палітыкі. З шэрагу апытанак вынікае, што толькі каля 5% чытачоў сайта падзяляюць пазіцыю Лукашэнкі ў прынцыповых ідэйных пытаннях.

Так, толькі 4% нашых чытачоў гатовыя прагаласаваць за Віктара Лукашэнку.

Больш за 90% чытачоў выводзяць беларускую дзяржаўнасць з Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага і Беларускай Народнай Рэспублікі, а не з БССР ці саюза з Расіяй.

Толькі 7% чытачоў выступаюць за святкаванне Дня абаронцаў Айчыны 23 лютага, у дзень Савецкай арміі.

Толькі 3% чытачоў хацелі б балець на стадыёне з чырвона-зялёным сцягам, астатнія — з бел-чырвона-белым.

І нават у такім неадназначным пытанні як Чэмпіянат свету па хакеі, 61% выступае за яго байкот, бо хакей — спосаб палітычнай самарэкламы аўтакрата.

**А Вы ўсюды гаворыце па-беларуску?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 381 | 17% |
| Не, толькі са сваімі. | 1207 | 55% |
| Я зусім не гавару па-беларуску, на жаль | 473 | 21% |
| Я не говорю і вообще вашу мову ненавижу | 61 | 3% |
| Гавару ўсюды, але каб ніхто не чуў | 81 | 4% |

І ў той жа час бачна, што «НН» чытаюць і шчырыя прыхільнікі дыктатуры. Значыць, і яны знаходзяць тут важную і карысную для сябе інфармацыю.

### Вострая незадаволенасць тым, што робіцца

Чытач «НН» крытычна ацэньвае сучаснае беларускае грамадства — такое, якое збудаваў Лукашэнка. На пытанне «На чым, па-Вашаму, заснавана беларускае грамадства?» 41% адказаў «Ні на чым. Яно існуе па інерцыі» і яшчэ 36% — «Ёсць два грамадствы: адно лукашэнкаўскае, а другое незалежнае. І яны як неба і зямля». Толькі 8% лічаць, што сучаснае беларускае грамадства заснавана на любові, павазе, веры ці хаця б грошах.

На думку 16% чытачоў «НН», наша грамадства заснавана на сіле і страху — «мэнэ-тэкел-фарэс» для ўладаў, што выяўляе, які градус адчужэння людзей ад улады і расчаравання і непрымання. Улады ігнаруюць Сапраўдных Беларусаў, яны адказваюць узаемнасцю.

Але самы галоўны вынік — рост колькасці Сапраўдных Беларусаў. У краіне сфарміравалася ядро людзей, якія ўсведамляюць сябе гаспадарамі сваёй краіны і ведаюць цану гэтаму. І чытачы «Нашай Нівы» — як зерне гэтага ядра.

**Андрэй Дынько**

# Мафія і мірныя жыхары

Беларусы, **давайце яднацца**!

Хто гуляў у мафію — ведае, якое гэта захаплялынае баўленне часу. Калі гуляеш мірным жыхаром — трасешся, каб не быць «забітым» ноччу, а днём шукаеш падтрымкі ў такіх жа патэнцыйных ахвяр, як і ты, каб разам знайсці «забойцаў»; калі гуляеш за мафіёзаў — пралічваеш хады наперад, уключаеш усю сілу свайго розуму, каб разам са сваім напарнікам «забіць» семярых мірных.

На мой погляд, сучаснае беларускае грамадства і падзеі, якія ў ім адбываюцца, падобныя на гэту гульню. Вельмі сумна адзначаць, але мафія пакуль што ўпэўнена перамагае. Прычым, як толькі які-небудзь мірны жыхар пачынае адкрыта сігналізаваць падчас дзённых абмеркаванняў пра мафію, — тая яго адразу забіваеуначы, што ў нашых рэаліях азначае кіданне ў турму ці вымушаную эміграцыю. Што ж робіць нашых «мафаў» такімі моцнымі?! Мудрыя тактычныя дзеянні — безумоўна, але самае галоўнае — яны дзейнічаюць заадно, разам. Лагічна, каб перамаглі «мірныя жыхары», нам трэба ўсяго толькі аб'яднацца.

На мой погляд, сёння з'явілася бліскучая магчымасць для яднання беларусаў. Пачаўся збор подпісаў за наданне гістарычнаму бел-чырвона-беламу сцягу статуса дзяржаўнай каштоўнасці. Шмат хто кажа, што ўлады ўсё роўна зноў адмовяць, што зварот аформлены не ідэальна. Усё гэта, магчыма, так, але, як па мне, такія каментары — гэта адмазкі беларусаў, якія нічога не хочуць рабіць, а толькі балбатаць і ныць на кухнях — як у нас усё дрэнна і які рэжым жорсткі. Я ганаруся і захапляюся землякамі, якія ахвяруюць сваёй свабодай для перамен у роднай краіне, сам жа на такія ахвяры, пакуль, не гатовы. Але я гатовы ахвяраваць хаця б сваім часам, каб раздрукаваць звароты, прайсціся па родных, сябрах, знаёмых з просьбай іх падпісаць і тым ушанаваць нашу гістарычную памяць.

Я ўпэўнены, што менавіта такімі акцыямі салідарнасці і гадуецца грамадзянская супольнасць. Тая грамадзянская супольнасць, якая і павінна рухаць наперад нашу краіну, а ў сучасных умовах — выцягваць нашу Радзіму з багны. Сёння мы падпісваем звароты, заўтра — ладзім акцыі салідарнасці са звольненымі работнікамі «Граніта», выкладчыкамі Гародзенскага ўніверсітэта, ці арганізоўваем пікет супраць размяшчэння расійскай авіябазы, якая парушае наш вайсковы нейтралітэт. Беларусы, давайце яднацца! Давайце ствараць гэту народную сілу, якая стане падмуркам новай, беларускай Беларусі. Давайце пакажам прыклад салідарнасці і павагі да сваіх продкаў, аб'яднаемся, і тады ніякая мафія нам не будзе страшная!

**Яўген Касцюкевіч**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

## Праблема прыёмнага пакоя ў бальніцах

Жыццё наша непрадказальнае. Радасць і гора, здароўе і хвароба ідуць поруч з намі штодня, і ніхто не застрахаваны ад нечаканасці і непрыемнасці.

Хачу спыніцца на тых цяжкіх момантах жыцця, калі мы трапляем у бальніцу, ці нас туды дастаўляе «хуткая дапамога», ці маем накіраванне ад участковай паліклінікі.

«Хуткая дапамога» хутка і ад'язджае, пакінуўшы хворага для далейшых дзеянняў лекарам дадзенай установы. Чалавек спадзяецца, што вось зараз прыйдзе вызваленне ад пакутаў і яго пачнуць лячыць. Замест гэтага пакуты толькі пачынаюцца.

Спачатку трэба доўга чакаць, пакуль хто-небудзь з'явіцца і зверне ўвагу на пацыента. Нарэшце хвораму (часам ледзь жывому) уручаюць стос накіраванняў у розныя кабінеты на доследы. І без усялякага суправаджэння. Добра, калі прыехаў нехта з блізкіх і дапамагае. І вось па неймаверна доўгіх калідорах трэба шукаць кабінеты розных накірункаў, а там яшчэ сядзець у чарзе. Праходзіць не адна гадзіна, а калі не ўзялі кроў з вены своечасова, то ўсё расцягваецца на яшчэ большы час. І калі нарэшце ўсё гатова, то пацыенту могуць даць ад варот паварот, адправіць дадому. Адказ — лячыцеся ў паліклініцы. Тады з сумкай, з рэчамі, сабранымі для бальніцы,

### Замест гэтага пакуты толькі пачынаюцца »

часам ужо ўначы, трэба шукаць таксі, каб дабрацца дадому. Вось і палячылі!

Колькі такіх прыкладаў ведаю! Мая знаёмая расказвала, што з ёй адбылося ў інфекцыйнай бальніцы на вуліцы Крапоткіна. Яна прыехала туды адна з рожыстым запаленнем на назе. Чакала каго-небудзь у прыёмным пакоі, пакуль не сцямнела.

— Адчуваю, што мне ўсё горш. Легла на лаўку, цела гарэла ад высокай тэмпературы.

Толькі калі пачала крычаць, прыйшла медсястра. Тэмпература была ўжо 39. Амаль страціла прытомнасць, бо прайшло больш за 2 гадзіны.

Падобная гісторыя адбылася і ў дзіцячай бальніцы на вуліцы Якубоўскага: трохгадовага хлопчыка з цяжкімі захворваннем таксама доўга трымалі ў прыёмным пакоі. Неаднаразова прыходзілася сустракацца з падобнымі фактамі і аўтару гэтага пісьма: у 5-й клінічнай бальніцы, у бальніцы хуткай дапамогі.

Тлумачаць такое становішча эканоміяй фінансавых сродкаў: чалавек меней праляжыць за дзяржаўны кошт, а то і зусім не трапіць. Быццам «хуткая дапамога» павязе сюды здаровага чалавека?

Вось і думай, дзе шукаць паратунку. Грамадзянін для ўлады, ці ўлада для яго?

Пытанне рытарычнае.

**А.В., Мінск**

## Беражыце цішыню

Ціха, людзі, не шуміце,
Не парушце цішыню,
Негалосна гаманіце,
Падсцілайце дабрыню.

Не шуміце ў лесе хвоі
І не гойдайся трава,
Прыляж, ветрык, у спакоі,
Не кугуй уначы сава.

Спеў святы плыве лагодна
У кожны дом, у кожны двор.
Марай светлаю, свабоднай
Душы, мкніцеся да зор.

Хай сягае чысцінёю
Да нябёсаў кожны лёс.
Стане ціха над зямлёю,
Чутна, як ідзе Хрыстос.

**Ян Грыб, Мінск**

# Беларуская глыбіня. Дно душы

Піша Павел Севярынец.

*...Адчыняе глыбокае*
*з сярэдзіны цемры,*
*і выводзіць на святло*
*цень смяротны.*
*Ёў 12:22*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Страшней за ўсё, што нас гэта ўжо не здзіўляе.

...Мамка трох сыноў п'е са сваімі падлеткамі, паруецца са старэйшым — і ходзяць удваіх у абдымку, цалуюцца, бутэлька ў руцэ, напаказ перад суседзямі на пружанскіх вуліцах...

...У п'яных бойках, якія ўспыхваюць за столікам у кавярні або на дыскатэцы, хлопчыкі-беларусы атрымліваюць то заточкай у сэрца, то разрыў унутраных органаў ад шалёных удараў нагамі, то раскроеныя кастэтам галовы.

### Колькі бесаў, балотных, блатных ды глабальных кішыць і лунае вакол — шляхціцу Завальню і не снілася »

...Кіроўца, крэпкі беларускі мужык, спалохана тэлефануе: падчас рамонту ў доме, дзе павесіўся ягоны дзядзька, знайшлі пад узадранай падлогай закладзенае ў кут яйка... Баіцца праклёну...

...Берасцейскі апазіцыйны дзеяч прапівае з сужыцелькай еўрапейскія гранты, і, каб не прышчамілі самога, здае паплечнікаў мясцовай «канторы».

...Хлопец, што дзяжурыць начамі ў гаспадарцы, прыкормлівае суку з вартавых аўчарак — і проста ў бытоўцы на агульнай канапе забаўляецца з ёй да раніцы...

...У адной з вёсак Лунінеччыны бабка, якой адмаўляюць даваць «на доўг» самагонку, крадком падпальвае з дзясятак «кропак», а калі міліцыя ўрэшце яе затрымлівае — у хаце знаходзяць спіс з астатнімі.

Спіс з астатнімі...

У кожнага беларуса, белага чалавека, свой чорны спіс.

Спрабуеш у гэтай багне дастаць да ўласнага дна... але засмоктвае пачуццё сваёй вышэйшасці... ганебны, дробязны разлік у словах і дзеяннях... успышкі пыхі... правалы з ззяючых Боскіх вяршыняў у бытавы грэх... асуджэнне ў слове, куды большае за твае тры гады абмежавання волі... сумятня думкі... тамленне духа...

Дно беларускай душы — балота. Як кажа геахімік Вячаслаў Сіўчык, балота — гэта такі ж *біягеацэноз*, як і іншыя: усе працэсы ідуць, але вельмі павольна. Гніенне — стагоддзямі. А пад траўкай ды кветачкамі — багна.

Што за нечысць гняздуе ў найглыбейшых нашых тайніках? Колькі бесаў, балотных, блатных ды глабальных кішыць і лунае вакол — шляхціцу Завальню і не снілася. Што за пачварныя духі дыхаюць у ашчэрах ды вызверах злосці, ледзь толькі кладзецца тэлефонная слухаўка або бразгаюць дзверы? Колькі смяротных грахоў кідаюцца рваць наша сэрца пры адным толькі выглядзе бліжняга — і колькі ўжо даядаюць нас, варта толькі яму адкрыць рот!..

Які тут Лукашэнка, якая імперыя... Мы ціха і зацята гадуем самаўладнага тырана ўнутры сябе, і высільваемся пабудаваць сваю вавілонскую імперыю, хай сабе памерам з прысядзібны ўчастак, але каб да нябёсаў.

І так нясцерпна, так востра цягне гэта тут, сярод разбураных святыняў і раскаяных вернікаў, у райскіх зарасніках белавежскіх ваколіцаў, навылёт прашытых птушыным свістам, зіхоткіх ад дыяментавых росаў, з крывавымі сунічкамі на магілах паўстанцаў, на сонечных палях з балацявінай, дзе бітва Бога з д'яблам то разгараецца, то заціхае з кожным чалавечым пакаленнем...

Ці ёсць яно, дно беларускага грэху?

Беларускае пекла — не агнявая магма з фантанамі пырскаў, а тлеючы тарфянік.

Да чаго ён здольны дайсці, гэты белы народ з чорным нутром, да якога прадоння дакапацца пры заглыбленні ў роднае эга, да якога злачынства правалíцца, да якога часу трываць уласную невыносную заражанасць грэхам!.. За стагоддзі паганства, бязбожжа і фарысейства тоўшчы зла ў генетыцы і ментальнасці дасягнулі неабдымных значэнняў.

Кожнаму, хто марыць падняць Беларусь з багны, наканавана крок за крокам, спроба за спробай павольна, пакутліва і знадрыўна спасцігаць: выцягнуць сябе з балота за валасы немагчыма. Тут патрэбная сіла звыш.

«Чалавекам гэта немагчыма», — тройчы паўтарае Евангелле паводле Марка, Лукі і Мацвея.

Вось чаму ў гэтай краіне Сыну Чалавечаму наканавана вечна трываць пакуты і боль ад ранаў, глыбейшых чым у іншых месцах, ад рассячэнняў граху да самага сэрца; скаланацца ў сутаргах на крыжы, забітым у дрыгву, быццам асінавы кол; дранцвець у смуродных пячорах нашых сэрцаў, загорнутаму, як і тады, у белае; пагружацца ў балоцістую геену — і ўваскрашаць нас пад бела-крывава-белым сцягам.

Бо ўсё магчыма Госпаду.

*Куплін*

# Партрэт грамадзяніна ВКЛ

**Пра што расказваюць завяшчанні продкаў. Піша Вольга Бабкова.**



Леапольд Лёфлер. Смерць Стэфана Чарнецкага. 1860.



**Вольга Бабкова**
гісторык, супрацоўніца Нацыянальнага гістарычнага архіва.

Тастаменты (акты апошняй волі, завяшчанні, духоўніцы) займаюць асаблівае месца сярод юрыдычных дакументаў, складзеных нашымі продкамі. Яны адносяцца да катэгорыі гістарычных крыніц, з якіх выразна гучыць голас тагачаснага чалавека.

Нягледзячы на стандартную форму дакумента, памер тэксту ў якім залежаў ад ганарара пісару, у тастаменце магчыма разгледзець асобу складальніка — тастатара. Непасрэдная і ўскосная інфармацыя пра яго самога і яго сям'ю вылучае тастаменты ў шэраг крыніц, каштоўных і для генеалагічных даследаванняў. Развагі пра хуткаплыннасць часу, мізэрнасць жыцця ў параўнанні з вечнасцю, спадзяванні на справядлівы Божы Суд і ўваскрашэнне, а таксама пералік рэчаў, якімі атачаў сябе чалавек, дае ўяўленне пра ягоны ўласны свет.

Нядаўна ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» выйшаў зборнік дакументаў пад назвай «Тастаменты шляхты і мяшчан Беларусі другой паловы XVI ст.». На 700 аркушах выдання размешчаны 116 дакументаў з фондаў Нацыянальнага гістарычнага архіва.

Чытаючы сведчанні апошняй волі людзей з розных мясцовасцяў, рознага маёмаснага стану, заўважаеш, што на нашых землях існавала пэўная культура напісання тастаментаў, страчаная пазней у выніку палітычных трансфармацыяў найноўшага часу.

Традыцыя складання тастаментаў пачынаецца з часоў Антычнасці. Еўрапейскія гісторыкі, грунтуючыся на тастаментах, вывучаюць не толькі прававыя і эканамічныя пытанні, але і даследуюць у сферы ментальнасці, духоўнасці, рэканструкцыі штодзённага жыцця.

Тастамент беларуса другой паловы XVI ст. сведчыў пра розныя моманты індывідуальнай гісторыі чалавека. Напрыклад, пра склад сям'і, маёмасць, адукаванасць. Таксама даваў ускоснае апісанне эпохі праз згадку ваенных падзеяў, неўраджайных гадоў, паморкаў, паездак у іншыя краіны на лячэнне ці па адукацыю, стаўленне да сваёй Айчыны... Часам у актавых кнігах знаходзіцца працяг гісторыі тастатараў і іх сямейнікаў — выконвалі ці не выконвалі нашчадкі апошнюю волю нябожчыка, які быў далейшы лёс дакумента. Уся гэтая інфармацыя дазваляе часам скласці партрэт асобы, грамадзяніна Вялікага Княства Літоўскага.

### Звяно ў сямейным ланцугу

Тастаменты пісаў кожны, ці то *у радасцях і раскошах*, ці то *згалочаны і нічога не маючы*, пакідаючы, адпаведна, кожнаму з сямейнікаў або маёнткі і каштоўнасці, або адно *пчолы, ды сена мурожнага і балотнага*. Пры гэтым кожны з тастатараў мусіў адчуваць сябе пэўным звяном у сямейным ланцугу, бо ў свой час таксама быў спадкаемцам.




**Тастаменты шляхты і мяшчан Беларусі другой паловы XVI ст.** — Мінск: «Беларуская энцыклапедыя», 2012. На 700 аркушах — 116 тастаментаў, слоўнік актавай мовы, асабовы і геаграфічны паказнікі.

Тастамент даваў магчымасць нагадаць пра сябе, дзякуючы запісаным у ім маёмасным пажалаванням сваякам, як бы захоўваючы сувязь з былымі ўладаннямі праз пэўную адзнаку на зямлі. Такім чынам, адной з утоеных мэтаў складання тастаментаў была ідэя працягнення жыцця пасля смерці не толькі праз малітвы і памінальную імшу, але і праз маёмасныя наданні сваякам. Тастаменты з пакалення ў пакаленне захоўваліся ў фамільных шкатулах разам з іншымі важнымі сямейнымі дакументамі.

**Памяць чалавечая вельмі кароткая, калі б пісьмом падпіраная не была**

### Дзеці, чэлядзь, людзі шалёныя

Статут ВКЛ — закон, па якім нашыя продкі жылі больш за трыста гадоў — агаворваў умовы складання тастаментаў. Вось, напрыклад, як гучаў пералік асобаў, якім было забаронена складаць акт апошняй волі, размяркоўваць сваю маёмасць: «Найперш дзеці, што гадоў адпаведных не маюць, манахі..., сыны, ад бацькі не аддзеленыя..., палоннікі і чэлядзь дворная; а таксама людзі шалёныя, каторыя ад розуму адыходзілі... таксама выгнанцы... не могуць тастаментаў складаць».

Пры справаванні тастамента мусілі прысутнічаць сведкі. Гэта павінны былі быць людзі «веры годныя, а не падазроныя». Жанчыны, паводле Статута, не маглі быць сведкамі. Амаль не сустракаліся кабеты і ў якасці апякунак пазасталым сваякам, хаця ў Статуце гэтая магчымасць агаворвалася. Перавага аддавалася найстарэйшай у родзе.

Складаліся тастаменты не толькі з набліжэннем старасці або якойсьці хваробы. Тагачаснага чалавека маглі напаткаць безліч бедаў, якія прыводзілі да смерці: *нішчэнне ад жаўнера, праз агонь, паветрые моравае, голад, спусташэнне, ушкаджэнне...* У пераважнай большасці тастаменты пісаліся загадзя і розніца ў даце напісання тастамента і даты яго актыкацыі (дата ўпісання дакумента ў актавыя кнігі пасля смерці) складала найчасцей некалькі месяцаў.

### Каб злосць між людзей не множылася

Увогуле ж тастаменты пісаліся *паводле павіннасці хрысціянскай і права паспалітага* з пэўнай мэтай: каб не пакінуць пасля сябе *разруху, вархолу, зайсця, крыўдаў, ростыркаў, уціскаў, розніцы, шарпаніны, завісненя, затруднення, пасварак і бурдаў* між сямейнікамі. Каб злосць між людзьмі не множылася.

Клопат пра жонку і дзяцей вымагаў звяртацца да апекуноў. Зямянін са Слуцкага княства Петр Быкоўскі слёзна прасіў князя Януша Радзівіла, *дабрадзея свайго*, быць апекуном і абаронцам жонкі і дзяцей, называючы яго *панам хрысціянскім*. Пан Фёдар Пашчынскі пакінуў наказ пра выхаванне сына адпаведна яго шляхецкага стану *з вялікай пільнасцю, абы быў цвічоны перад боязню Божай і пабожнасцю хрысціянскай... абы ва ўсялякіх цнотах памнажаў...*

### Марнота свету

Перад абліччам смерці мала хто мог дазволіць сабе быць няшчырым. І хаця хрысціяне мелі надзею на *вясёлае з мёртвых устанне і атрыманне жывата вечнага*, але страх перад Страшным Трыбуналам Бога Збавіцеля часам прымушаў увасабляць тэму смерці праз метафару, як зрабіў гэта ў сваім тастаменце пан Фёдар Пашчынскі. Смерць, на ягоную думку — злодзей, які падкрадаецца цішком, рабуючы наш дом — мізэрнае цела, вымаючы з дому маёмасць, то бок душу. Смерць увасаблялася таксама ў вобразе крыжа (на крыжы смерці сваёй). Хвароба — як ганец смерці.

А часам у тастаменце гучала горкая іронія над сабой і над лёсам. Пан Ян Цадроўскі, быўшы ўжо чалавека старым і хворым, штогадзінна выглядаючы паслоў нябесных па сваю душу, пакінуў у сваім тастаменце наступныя радкі: *ужо так мяне фартуна мая з маладых гадоў пеставала, не даўшы мне кута ўласнага, дзе бы мог жыццё сваё скончыць...*

Тастаменты пісалі людзі *бачныя*, г.зн. мудрыя, якія добра разумелі: *на свеце нічога пэўнейшага няма, адно смерць, а час і гадзіна яе схаваная ад вачэй*. Амаль у кожным з тастаментаў — прыклад развагаў пра свет, які прыйшоў час пакідаць і пра сваё стаўленне да смерці. Трагічна і смутна гучыць усведамленне нетрываласці гэтага свету, але ж менавіта падобнае ўспрыняццё і пакідае радкі, блізкія ўзору літаратуры, як, прыкладам, у тастаменце зямяніна Наваградскага ваяводства Пятра Быкоўскага: бо ўсе рэчы на свеце створаныя гібеюць і да сканчэння прыходзяць. Не толькі зямля, але і ўвесь круг нябесны, сонца і месяц з усімі аздобамі сваімі знішчаюцца і канец мець мусяць...

### «Пахавайце над грушай»

Выказваючы апошнюю волю, паміраючы звяртаўся да найбліжэйшых сваякоў, ці да іншых блізкіх людзей з просьбай аб месцы пахавання. Выбар месца пахавання — адзін з важных матываў у тастаментах. Калі бессмяротную душу кляйнот заўжды даручалі ў рукі Пану Богу, Уседзяржацелю неба і зямлі, то цела — з зямлі ўзятае мусіла да зямлі і вярнуцца. Найчасцей месцам пахавання былі касцёлы і цэрквы, што адпавядае хрысціянскай традыцыі і культуры. Значная колькасць шляхты выбірала месцам пахавання фамільныя склепы ў маёнтках, ці проста месца побач з бацькамі, дзецьмі, ці мужам-жонкай. У шэрагу тастаментаў сустракаюцца пажаданні быць пахаванымі на гары, хрысціянскім звычаем, што, верагодна, адпавядала традыцыям пратэстантаў (а магчыма было выклікана жаданнем хутчэйшага-пярвейшага ўваскрашэння ў абяцаны Госпадам дзень.

Гэтак берасцейскі зямянін Аляксандр Тхарніцкі прасіў айчыма зладзіць апошні прытулак *на горцы, недалёка Дземешаўшчыны*. Слонімскі зямянін Мікалай Рэпніцкі прасіў быць пахаваным *подле двух верб пры касцёле св. Андрэя ў Слоніме*. Нязвыклым выглядае пажаданне берасцейскага зямяніна Яна Лазавіцкага быць пахаваным *хрысціянскім звычаем на полі ўласным пад грушаю каля дарогі, што ідзе ад Кобрыні да Гарадца*. Гаворка можа ісці пра водгулле паганства, спалучанага з хрысціянскімі ўяўленнямі. Традыцыя пахавання ўздоўж дарог бярэ пачатак з часоў Антычнасці.

### Памяць, падтрыманая пісьмом

Такім чынам, істотным матывам напісання тастаментаў з'яўляецца памяць. *Памяць чалавечая вельмі кароткая, калі б пісьмом падпіраная не была,* — пісалі нашыя продкі. — *Усякія рэчы на свеце з памяці людской сыходзяць і сплываюць*. Традыцыя пісаць пра неабходнасць памяці, каб захаваць для нашчадкаў на паперы сваю волю — таксама працяг антычнай традыцыі, запачаткаванай яшчэ Герадотам, які свае «Грэка-персідскія войны» суправадзіў эпіграфам: каб не было забыта зробленае людзьмі.

# Фаер-шоу

13 ліпеня ў амфітэатры мінскага парка Перамогі адбудзецца фаер-шоу «Прага агню». Пачатак а 22. Уваход вольны.



НАСТАССЯ ХРАЛОВІЧ

**ФУТБОЛ**

### «Дынама» — «Круоя»




**11 ліпеня на стадыёне «Трактар»** пройдзе гульня 1-га кваліфікацыйнага раўнда Лігі Еўропы. Першы матч у Літве скончыўся перамогай беларусаў з лікам 3:0. Пачатак а 19. Білеты — 20-30 тысяч рублёў.

### Тур 17

**13-14 ліпеня** пройдзе чарговы тур чэмпіяната Беларусі па футболе.
**У суботу** гуляюць:
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Дынама» (Брэст);
«Шахцёр» (Салігорск) — «Славія» (Мазыр);
«Мінск» — БАТЭ (Барысаў).
**У нядзелю** сустракаюцца:
«Гомель» — «Дынама» (Мінск);
«Нафтан» (Наваполацк) — «Белшына» (Бабруйск);
«Дняпро» (Магілёў) — «Нёман» (Гродна).

**ІМПРЭЗЫ**

### Басовішча

**19-20 ліпеня ў Гарадку (Польшча)** — Басовішча-2013. Выступаюць: Akute, Clover Club, Died Moroz Convention, Dzieciuki, Hope On, Ilo&Friends, Indios Bravos, Kim Nowak, Masala Soundsystem, Orkiestra Klezmierska Teatru Sejnenskiego, Perkalaba, Pokrak, Pomidor/off, Re1ikt, The Toobes, Vinsent, Kinior&Zabelov і іншыя.

### КІНЕМО

**Да 18 ліпеня ва ўнутраным дворыку музея-майстроўні Заіра Азгура (Азгура, 8)** — open-air фестываль нямога кіно і сучаснай музыкі «КІНЕМО». 11 ліпеня а 21-й — «Возніца» / Körkarlen (рэжысёр Віктар Шострам, 1921), музыка гурту «Five-storey ensemble». 18 ліпеня а 21-й — «Антракт» /Entracte (рэжысёр Рэнэ Клер, 1924), музыка гурту «Five-storey ensemble». «Ракавіна і святар»/ La coquille et le clergyman (рэжысёр Жэрмена Дзюлак, 1928), музыка гурта «Князь Мышкін», «Марская зорка»/ L'etoile de mer (рэжысёр Ман Рэй, 1928), музыка гурту «Fratrez», «Пакінь мяне ў спакоі»/ Emak Bakia (рэжысёр Ман Рэй, 1926), музыка Віктара Сямашкі.

**КАНЦЭРТЫ**

### The Apples

**12 ліпеня а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — rock-n-roll з гуртом «The Apples».







### Basis: пачатак

**Да сярэдзіны ліпеня ў мастацкай галерэі Цэнтра народнай творчасці (Гікалы, 4, памяшканне бібліятэкі імя А.С. Пушкіна)** працуе выстава твораў Паўлы Кароткай «Basis: Пачатак». У экспазіцыі прадстаўлены жывапісныя палотны, графіка, творы дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. Як піша сама мастачка, асноўны накірунак яе творчасці — свет фантазій, перажыванняў і пачуццяў.

### Адыс Абеба

**18 ліпеня а 19-й ц «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт гурту «Адыс Абеба».

**ВЫСТАВЫ**

### Люмін

**Да 13 ліпеня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава флуарэсцэнтнага дызайну і графікі Лісіцынай Кацярыны і Філіпавай Алесі «Люмін». Дзякуючы флуарэсцэнтнаму асвятленню, мы трапляем у казачную атмасферу, якая не ўласцівая нам у штодзённым жыцці.

### Космас

**Да 29 ліпеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава твораў Івана Міско «Космас». На выставе «Космас» прадстаўлена больш за 40 твораў аўтара — скульптура, графіка, фота. Экспануюцца мадэлі помнікаў, якія ўвекавечылі герояў касмічных палётаў. Акрамя расійскіх і беларускіх, Івану Міско пазіравалі касманаўты Польшчы, Францыі, Германіі, Балгарыі, Вялікабрытаніі, Аўстрыі, Японіі.

### Стасіс Красаўскас

**Да 25 ліпеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава графічных твораў народнага мастака Літвы Стасіса Красаўскаса. Красаўскас працаваў у розных тэхніках (ксілаграфія, літаграфія, лінагравюра, афорт) і ствараў станкавыя гравюры, а таксама шматлікія ілюстрацыі да літаратурных твораў. Найлепшым ягоным працам уласцівыя лаканізм і экспрэсія белых ліній на чорным фоне.

**ТЭАТР**

### 10 ліпеня

**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»

### 11 ліпеня

**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

### 12 ліпеня

**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»

### 14 ліпеня

**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»

### 15 ліпеня

**Беларускай драматургіі** — «Містэр Розыгрыш»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»

### 16 ліпеня

**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»
Купалаўскі — «Офіс»

### 17 ліпеня

**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Беларускай драматургіі** — «Тры Жыззлі»

### 18 ліпеня

**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
Беларускай драматургіі — «Бегчы з Эльсінора, альбо Гамлет навыварат»

**КІНО**

### Джэк Верабей на Дзікім Захадзе

Самотны рэйнджэр
Вестэрн, баявік, камедыя
**Рэжысер:** Гор Вярбінскі
ЗША, 149 хв.

**У ролях:** Джоні Дэп, Армі Хамер, Том Уілкінсан, Ульям Фіхтнер, Бары Пэпер, Хелена Бонэм-Картэр

Малады пракурор штата Тэхас Джон Рэйд (Армі Хамер) цудам перажывае напад на рэйнджараў, але гіне ягоны родны брат. Уратавацца Рэйду дапамагае індзеецвыгнаннік Тонта (Джоні Дэп), і разам з белым канём-духам (паўнавартасным чальцом каманды) яны выпраўляюцца на пошукі бандыта-канібала Бутча Кавендзіша (Ульям Фіхтнер), іх агульнага ворага.
Стужка заснаваная на папулярнай у Амерыцы радыёп'есе аб Самотным Рэйнджары, народным героі Дзікага Захаду. Рэжысёр Гор Вярбінскі, за плячыма якога тры часткі «Піратаў Карыбскага мора», падае легенду з нагага боку — расказаную індзейцам Тонта хлопчыку на кірмашы ў Сан-Францыска.
Тонта ў выкананні Дэпа нясцерпна нагадвае Джэка Вераб'я, але дзякуючы таму, што ягонаму герою прысвечаны далёка не ўвесь экранны час, персанаж надае фільму дастаткову долю гумару і не раздражняе. Трэба адзначыць, што ў стужцы ўсяго ў меру: індзейскай драмы, вестэрнавых пагоняў за цягнікамі і відовішчных боек, нечаканых і вясёлых сітуацый.

**Настасся Уласава**



# Асцярожна: развод,

## ці Чаму распадаюцца беларускія сем’і

**Беларусь — другая краіна ў свеце па колькасці разводаў.**




У студзені-маі 2013 года на кожныя 1000 шлюбаў у нашай краіне прыходзілася 609 разводаў, год таму — 835 разводаў!

ААН высветліла, што за апошнія паўстагоддзя колькасць разводаў у краіне падвоілася, а для кожнай чацвёртай незамужняй 40-гадовай жанчыны няма ніводнага вольнага мужчыны адпаведнага веку.

Горшая сітуацыя вымалёўваецца толькі ў суседняй Расіі, якая па колькасці разводаў займае першае месца. Чаму мы апынуліся на другім, і як далей з гэтым жыць?

### Усё псуюць грошы?

Дацэнт кафедры сацыялогіі БДУ Святлана Бурава адзначае, што, паводле даследаванняў, існуе 5 галоўных прычын, якія прыводзяць да сур’ёзных канфліктаў паміж мужам і жонкай. Першая і самая галоўная — праблемы з грашыма, на другім месцы — адсутнасць узаемапаразумення. Далей ідуць разыходжанні ў выхаванні дзяцей, размеркаванне побытавых абавязкаў і злоўжыванне алкаголем.

Жанчыны часцей падаюць на развод, але яны звычайна і трываюць да апошняга. Жонкі сыходзяць тады, калі паводзіны мужа становяцца невыноснымі. Яны, у адрозненні ад мужчын, рэдка сыходзяць з адных адносінаў у новыя.

«Закон не вызначае, па якіх прычынах можна развесціся, — заўважае Святлана Бурава. — У Кодэксе аб шлюбе і сям’і ёсць толькі агульнае ўказанне, што «шлюб скасоўваецца, калі судом будзе ўстаноўлена, што далейшае сумеснае жыццё мужа і жонкі і захаванне сям’і сталі немагчымымі».

Згодна з статыстыкай, у Беларусі за 1990—2007 гады трэціна параў развяліся ў першыя 5 год шлюбу. Век уступлення ў шлюб таксама змяніўся: калі ў пачатку 2000-х для мужчын ён быў роўны 24 гадам, а для жанчын — 22,5, то цяпер ён павялічыўся на 2 гады ў тых і другіх.

Такім чынам, сучасныя беларусы жэняцца пазней, а разводзяцца раней за сваіх папярэднікаў. Асноўная прычына — змена ролі сям’і ў сучасным грамадстве.

### Усё псуюць феміністкі?

Сацыёлаг Бурава адзначае, што сэксуальная рэвалюцыя працягвае карэнным чынам змяняць уяўленні людзей пра сэксуальнасць і міжполавыя адносіны.

Гендарныя ролі пачынаюць пераасэнсоўваць. У жанчын, якія ўсё яшчэ адчуваюць праблему «падвойнага працоўнага дня» (адзін за грошы на ўстанове, а другі дома бясплатна), змяняюцца ўяўленні аб размеркаванні абавязкаў у сям’і. Многія з іх, асабліва высокаадукаваныя, хочуць, каб хатнія справы былі абавязкам не толькі жанчыны, але і мужчыны. І гэта справядліва, таму што жанчыны сёння з’яўляюцца часцяком такімі ж «кармільцамі» сям’і, як і мужчыны.

«Гендарна афарбаванай працы ў сям’і становіцца ўсё менш і менш, — каментуе сітуацыю сямейны псіхолаг Вольга Андрэева. — Націснуць на тую ж кнопку пральнай машыны можа і мужчына. Таму цяпер у сям’і засталіся дзве асноўныя функцыі: задавальванне індывідуальных патрэбаў (эмацыйных, сэксуальных) і гадаванне дзяцей.

Сацыяльная сітуацыя змянілася. У СМІ кажуць, што, маўляў, руйнуюцца традыцыйныя каштоўнасці, іх трэба аднаўляць... Але нічога там ужо не адновіш. Гэтыя традыцыйныя каштоўнасці зараз нікому не патрэбныя, таму што яны не адпавядаюць часу. Гэта не значыць, што людзям не патрэбная сям’я. Проста ствараць яе будуць для іншых мэтаў».

### Усё псуюць эгаісты?

Спецыялісты адзначаюць, што сёння маладыя людзі ўсё больш і больш схільныя да нарцысізму. Вынікам такіх паводзін з’яўляецца не толькі нежаданне прыстасоўвацца да пажаданняў і інтарэсаў мужа ці жонкі, але і запаволенасць у пытаннях нараджэння дзяцей.

«На першае месца людзі ставяць не інтарэсы грамадства, не інтарэсы сям’і, а свае ўласныя, — канстатуе псіхолаг Андрэева. — Я думаю, гэты працэс ідзе па ўсім свеце. І таму сёння чалавек адчувае права шукаць асабістае шчасце. Інтарэсы сям’і ён паставіць на другое ці трэцяе месца.

У мяне ёсць свае думкі наконт прычыны такіх паводзінаў. Была Другая сусветная вайна, якая патрабавала ад людзей вялікіх ахвяраў. А пасля прыйшло асэнсаванне таго, што жыццё ўсяго адно і трэба пажыць трошкі дзеля сябе. Гэта натуральны адкат пасля любой вялікай вайны — у бок нарцысізму. Людзі зараз хочуць больш высокага ўзроўню жыцця ў розных галінах. Таму сёння размаўляць пра самаахвяраванне не мае сэнсу».

> **У 35 гадоў «выбракоўка мам» — бюджэт пераразмяркоўваецца на карысць дачкі**

### Усё псуюць інфантыльныя юнакі?

У дадатак да нарцысізму на постсавецкай прасторы назіраецца і вельмі высокі ўзровень інфантыльнасці маладых.

Пры якіх умовах фарміруецца інфантыльная асоба? Калі шмат апекі ў сям’і. «Гэта тое, што ў нас называецца гіперапека, — апісвае сітуацыю Вольга Андрэева. — Тата звычайна актыўнага ўдзелу ў выхаванні не бярэ, ён звычайна альбо на працы, альбо на канапе перад тэлевізарам. У нашай культуры любоў да дзіцяці выражаецца праз гіперапеку. Больш за тое, шмат мам з дзяцінства даюць устаноўку сваім дочкам, што тыя павінны як мага хутчэй выйсці замуж і нарадзіць дзіця. Вартасць жанчыны ў нас вымяраецца не персанальнымі якасцямі, а тым фактам, ці знаходзіцца яна ў шлюбе, наколькі паспяхова яна выбудавала зносіны з мужчынам».

Часам у небагатых сем’ях можна назіраць цікавую сітуацыю: калі дзяўчынка расце, бюджэт сям’і пераразмяркоўваецца на карысць яе гардэроба. Мама ўжо апранаецца горш, за сабой амаль не сочыць, а дачцэ набываюць новыя спадніцы, туфлі на высокіх абцасах. У 35 гадоў ідзе так званая «выбракоўка мам». Затое дачка не зможа пасля папракнуць, што, маўляў, яна была дрэнна апранутая і таму не змагла знайсці сабе мужчыну.

### У кахання няма выпрабавальнага тэрміну

Такім чынам, цяпер сем’і ствараюцца для таго, каб задаволіць эмацыйныя і сэксуальныя патрэбы і каб узгадаваць дзяцей. У адрозненне ад савецкага часу, дзе пара ўтваралася ў тым ліку і для эканамічнай стабільнасці партнёраў.

Зразумела, у шлюбе могуць быць такія праблемы, якія вырашыць немагчыма. Напрыклад, у людзей розныя жыццёвыя каштоўнасці.

«Кожны чалавек упэўнены ў сваіх каштоўнасцях і за іх гатовы стаяць да канца, — кажа псіхолаг. — Ці, напрыклад, палітычныя погляды. Калі адбываюцца нейкія значныя палітычныя падзеі, яны штораз расколваюць не толькі краіну, але і сем’і. Гэта таксама невырашальны канфлікт. Ці калі адзін хоча эміграваць, другі — застацца. Адзін партнёр мае патрыярхальныя ўстаноўкі, а іншы мае свае ўласныя амбіцыі і дасягненні.

Калі закаханыя людзі пачынаюць адносіны, яны шукаюць тое, што іх яднае, а не тое, што адрознівае. І не спяшаюцца гэтую тэму абмякоўваць, бо баяцца, што шлюб не адбудзецца. Асабліва баяцца гэтага дзяўчаты. Яны ўпэўненыя, што каханне робіць цуды, і калі мужчына яе кахае, то зможа шмат з чым прымірыцца. Але зразумела, што гэта не так».

Спецыялісты лічаць, што няма ніякіх тэрмінаў, пасля якіх адразу можна ўступаць у шлюб і не баяцца за свае адносіны. Нямецкі псіхатэрапеўт Берт Хелінгер кажа, што самае галоўнае паміж мужчынам і жанчынай адбываецца ў першыя 15 хвілін знаёмства, а пасля ўжо паступова фарміруюцца ўсе патрэбныя прывязанасці. Гэта штосьці чароўнае, і для таго, каб закаханасць адбылася, патрэбная ідэалізацыя партнёра.

Але жыць чалавек вымушаны не з прыдуманым ідэалам, а з рэальнай асобай. Таму для таго, каб пазбегчы непрыемных сюрпрызаў, варта ўсё з партнёрам як след абмеркаваць. І толькі пасля прымаць рашэнне наконт шлюбу.

Так званага выпрабавальнага тэрміну ў адносінаў няма, таму не варта чакаць моманту, каб з упэўненасцю сказаць, што цяпер можна жаніцца і шлюб будзе доўгім ды шчаслівым. У гэтай справе, на жаль, ніхто не дае ніякіх гарантый.

**Настасся Храловіч**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч пад моцнай залевай уваходзіць з пілігрымкай у Будслаў. На юбілейны фэст, прысвечаны 400-годдзю абраза Маці Божай у Будславе, сабралася больш за 25 тысяч чалавек.**



Reuters

**Дзяўчынка нясе егіпецкі сцяжок на дэманстрацыі супраць Мухамада Мурсі. У яе на ілбе надпіс «Сыходзь». Больш пра падзеі ў Егіпце — старонка 2.**



СЯРГЕЙ ЗІНІН

**6 ліпеня вядомы музыка Зміцер Вайцюшкевіч зладзіў на сваёй сядзібе Вайцюшкі, што ў Навагрудскім раёне на беразе Нёмана, першы Купальскі фэст.**



ЯГОР МАРЦІНОВІЧ

**У Мінску гарэла будоўля бізнэс-цэнтра і гасцініцы Юрыя Чыжа «Green City». Праўда, агонь хутка згасілі.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Учора тата змяніў мой профіль ў тэлефоннай кніжцы. Раней быў «дачушка», а цяпер — «тата, дай грошай!»

* * *

— Даражэнькі, давай сёння не будзем засцерагацца...

— Блін, Язэпавіч, ты задзёўб! Бяры каску, мы ж на будоўлі ўсё ж такі!

* * *

Хлопчык з надзвычай ціхім голасам ведае назвы ўсіх канцавых прыпынкаў маршруткі.

* * *

Да дзяцей камуністаў прылятае Карлсан Маркс.

* * *

Прэм'ера балета «Лебядзінае возера» ў раённым цэнтры культуры была сарваная хуліганамі, якія падчас першай дзеі пакрышылі на сцэну батон.

* * *

Пенсіянерка Марыя Іванаўна памыла швэдар белым парашком, знойдзеным у пакоі ўнука. Швэдар сеў, а дарагі ўнучак — не.

* * *

Калі вас пакусаў злы сабака, не перажывайце. Некалі пакусае і добры.

* * *

Тэрарыст захапіў заалагічны магазін:

— У вас ёсць 30 секундаў, каб пакінуць памяшканне!

Чарапаха:

— Сволач!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Папоўскі бровар.** Парох бабруйскага павятовага сабора а.Дабрынін «сыходзіць» у адстаўку. Прычына тая: епіскап Мітрафан выкрыў, што а.Дабрынін у адной асобе іерэй і ўласнік бровара. А ўладыка Мітрафан вялікі староннік «чэлышоўскіх» ідэй па змаганні з п'янствам і па ўсёй епархіі загадана заводзіць таварыствы цвярозасці.

**«НН». №28. 1913.**

**Пераапранутая сучаснасць «Настассі Слуцкай».** Кіруючыся імкненнем нікога не пакрыўдзіць, творчая група стварыла фільм пра дыстыляваны, ідэалагічна выверaны патрыятызм. Але нават пасля ўсіх рэжысёрскіх і міністэрскіх перастраховак «Настасся Слуцкая» засталася стужкай вельмі і вельмі крамольнай. Чаго вартая хоць бы неаднакроць паўтораная фраза: «Вялікі князь Аляксандр моцна нездаровы, наўрад ці ачуняе». І куды глядзела дзяржпрыёмка?

**«НН». №25. 2003.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8100. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 09.07.2013.
Замова №2922.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

ISSN 1819-1614

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12